# БАЦЬКАЎШЧЫНА

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 40 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 25 (156) — Нядзеля 21 чэрвеня 1953 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 7

# У Бэрліне пралілася кроў

**ТАКТЫЧНЫ АДВАРОТ АД САВЕТЫЗАЦЫІ. — ЦЬВЯРОЗАЯ РЭАКЦЫЯ ЗАХАДУ. — АНТЫСАВЕЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ ЎСХОДНЯБЭРЛІНСКІХ РАБОТНІКАЎ. — АБВЕШЧАНЬНЕ ВАЕННАГА ПАЛАЖЭНЬНЯ Ў БЭРЛІНЕ.**

### НОВАЯ САВЕЦКАЯ ТАКТЫКА Ў УСХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ

Палітбюро ўсходнянямецкай камуністычнай партыі, якая носіць афіцыяльную назву партыі сацыялсітычнай еднасьці Нямеччыны (СЕД), 9 чэрвеня прыняло й даручыла ўраду правесьці ў жыцьцё цэлы рад пастановаў, якія маюць служыць павышэньню жыцьцёвае ўзроўні ўсіх слаёў насельніцтва і ўзмацненьню пашанаваньня права. Было сьцьверджана, што партыяй як і ўрадам Гротэволя было ў мінулым дапушчана цэлы рад памылак, у выніку якіх у Ўсходняй Нямеччыне паўстаў гаспадарскі хаос, а многія змушаныя былі ўцякаць у заходні Бэрлін. Але найбольш характарыстычным было самапрызнаньне афіцыяльнага воргану савецкай высокай камісіі «Тэгліхэ Рундшаў», што «былая савецкая кантрольная камісія ў некаторай ступені зьяўляецца таксама адказнай за паўстаўшыя памылкі». Адначасна гэтая-ж газэта пацьвердзіла, што ў савецкай зоне Нямеччыны пануе бяспраўе й гвалт.

Вось-жа каб гэтыя памылкі направіць і «пралажыць дарогу да задзіночаньня Нямеччыны», як афіцыяльна абгрунтоўваецца новы палітычны курс, і былі выдадзеныя ўспомненыя пастановы, найважнейшыя зь якіх зьяўляюцца наступныя: 1. Зварот прадуктовых картак двум мільёнам собсьнікаў крамаў і дробных прадпрыемстваў, якім былі яны адабраныя, як «капіталістым». Гэтыя людзі былі змушаныя купляць на вольным рынку паводля высокіх чорных цэнаў. 2. Выдаваньне банкам дзяржаўных пазыкаў для прыватных гандляроў і прамыслоўцаў. 3. Адмова ад прымусовых мэтадаў сьцягваньня падаткаў з прыватных гандляроў. 4. Закрытыя дзяржавай прыватныя прадпрыемствы могуць быць адкрытыя нанава папярэднімі собсьнікамі. 5. Усе ўцекачы, якія вернуцца ў Усходнюю Нямеччыну, атрымаюць страчаныя імі грамадзянскія правы і сканфіскаваную маемасьць, а сяляне свае гаспадаркі. 6. Устрымоўваецца далейшая калектывізацыя сельскае гаспадаркі. 7. Усе прысуды зьняволеньня, вынесеныя супраць пратэстанцкіх пастараў, на сялян за нявыкананьне кантынгентаў, за няўплату падаткаў і ўбесьпячальных складак будуць паддадзеныя рэвізіі, а ўспомненыя й некатсрыя іншыя катэгорыі вязьняў, асуджаныя да трох год, будуць звольненыя на падставе амнэстыі. 8. Будуць зрэвідаваныя прамысловыя пляны з мэтаю павялічэньня прадукцыі тавараў шырокага ўжытку. 9. Будуць узноў выплачвацца дзяржаўныя субсыдыі для пратэстанцкае царквы, зьвернутая сканфіскаваная царкоўная маемасьць, а студэнты, выкінутыя із школаў з рэлігійных матываў, будуць прынятыя назад. 10. Будуць зьніжаныя чыгуначныя тарыфы, у першую чаргу для работнікаў і школьнай моладзі. 11. Будуць праведзеныя палёгкі руху між Усходняй і Заходняй Нямеччынай.

Хутка пасьля гэтых, узапраўды нечаканых распараджэньняў якраз і пачалося ўрадам Усходняй Нямеччыны праводжаньне іх у жыцьцё.

### ЯК НА ГЭТА ЗАРЭАГАВАЎ ЗАХАД

Дэмакратычны Захад прыняў усе гэтыя мерапрыемствы камуністых, не як прынцыповую зьмену іхнае палітыкі, але выключна як чыста тактычныя хады, правільна знаходозячы запраўдныя іх прычыны.

Урадавыя колы Вашынгтону на падставе выпадкаў у Ўсходняй Нямеччыне прыйшлі да вывадаў, што нельга-ж Саветам бесьперапынна дэклямаваць аб прагрэсе, трывалым міры й дабрабыце, калі адначасна жахлівыя мэтады дзяржаўнай паліцыі змушаюць дзёньна тысячы Немцаў да ўцяканьня на Захад. Таксама нельга гаварыць усьцяж аб задзіночаньні Нямеччыны і адначасна паглыбляць пропасьць між Усходам і Захадам.

Амэрыканская газэта ў нямецкай мове «Нойе Цайтунг» у нумары за 12 чэрвеня новыя савецкія мерапрыемствы ў Усходняй Нямеччыне выводзіць у простай лініі яшчэ ад пастановаў XIX зьезду камуністычнай партыі Савецкага Саюзу, калі была прынятая тэза ўсякімі магчымымі спосабамі завастрыць існуючыя разыходжаньні ў лягеры заходніх дэмакрацыяў. Газэта бачыць дзьве галоўныя прычыны, якія змусілі камуністых зьмяніць сваю тактыку ў Усходняй Нямеччыне. Першая прычына вонкавая, для якой была прынесеная ў ахвяру дасюлешняя тактыка СЕД. Ейнай мэтай ёсьць зьмена публічнай апініі Захаду й выкліканьне ілюзіяў што да зьмены палітыкі Крэмля. Але ўсё гэта, на думку газэты, толькі тактычныя зьмены тады, калі генэральная лінія, як у Эўропе, гэтак і ў Азіі астаецца нязьменнай. Новыя камуністычныя пастановы, якія таксама маюць на мэце спаралізаваць заплянаваную канфэрэнцыю на Бэрмудах, ані чуць ня вызваляюць Усходняй Нямеччыны з палажэньня савецкай калёніі, ані спыняюць камуністычнай дыктатуры ў ёй пад фірмай СЕД. Тое, што сяньня нямецкаму селяніну будзе зьвернутая нядаўна адабраная зямля, а ён сам будзе выпушчаны з турмы, каб заўтра гэтую-ж зямлю адабраць узноў, а яго замкнуць паўторна ў турме, — бо гэткі запраўдны сэнс новых законаў усходня-нямецкага ўраду — у нічым ня мяняе істотнага палажэньня.

Другая прычына ёсьць нутраная. Дасюлешняя палітыка прывяла да поўнага крызысу й хаосу, як у прамыслоьасьці, гандлі, гэтак і ў сельскай гаспадарцы. Гэты крызыс падкапаў гаспадарскую сыстэму Ўсходняй Нямеччыны, а многія тысячы насельніцтва змусіў да ўцёкаў на Захад, што яшчэ болей паглыбляе гаспадарскую руіну й вельмі дыскрэдытуе савецкую сыстэму за зя-

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Нельга зьмешваць розных паняцьцяў

Некаторыя з нашых суродзічаў на эміграцыі ўважаюць, што калі мы ня вызнаём Беларускай Цэнтральнай Рады за запраўднае й аўтарытэтнае беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва, а тым больш за праўнага носьбіта сувэрэнных правоў беларускага народу, а г.зв. «Другога Ўсебеларускага Кангрэсу» за свабоднае выяўленьне волі беларускага народу, дык гэтым самым быццам перачыркваем усе тыя нацыянальныя дасягненьні й здабыткі Беларусаў, якія былі дакананыя падчас нямецкай акупацыі і ў сваей апошняй фазе пад кіраўніцтвам Беларускай Цэнтральнай Рады. Гэткі пагляд спэцыяльна пашыраецца коламі, зьбліжанымі да БЦР, як і ёй самой з выразнай мэтай — падмацаваць вельмі-ж ужо хісткія свае ідэялягічныя й палітычныя пазыцыі ды прыдбаць некаторыя аргумэнты, якія прамаўлялі-б за мэтазгоднасьцю сяньняшняга існаваньня й дзейнасьці БЦР.

Вось-жа такі пагляд зьяўляецца поўнасьцю хвальшывы й абапіраецца на сьвядомым хвальшаваньні фактаў з аднаго боку і наіўным недаразуменьні — з другога. У далейшым пастараемся коратка выясьніць, на чым гэтае недаразуменьне палягае.

Не падлягае найменшаму сумліву факт, што за часоў нямецкай акупацыі, — хаця гэтая акупацыя была нязвычайна жорсткая й крывавая — беларускі народ меў бясспрэчна некаторыя магчымасьці нацыянальнае дзейнасьці тады, калі пры бальшавіках, а навет і пры Паляках у Заходняй Беларусі, ня меў абсалютна ніякіх. Вось-жа беларускі народ, а фактычна ягоны нацыянальны актыў, і пастанавіў, наражаючыся нярэдка на крывавыя ахвяры, усе такія магчымасьці як найшырэй выкарыстаць для сваей нацыянальнай справы. І трэба згадзіцца, што ў прыняцьці такой тактыкі Беларусы выказалі ня мала палітычнага розуму, уменьня весьці работу ў напоўлегальных і нелегальных умовах і запраўднай адданасьці нацыянальна-вызвольнай справе.

Уся гэтая нацыянальная дзейнасьць дзякуючы гэтаму-ж актыву была слабка арганізацыйна зьвязаная з цэнтрам — зь Менскам. І хоць існавалі некаторыя цэнтральныя ворганы паасобных рэсортаў нацыянальнае дзейнасьці, як галоўнае кіраўніцтва Беларускай Народнай Самапомачы, Генэральны Школьны Інспэктарат ці Галоўны Штаб Саюзу Беларускае Моладзі, якія, за выключэньнем Генэральнага Школьнага Інспэктарату, былі амаль на цэлым працягу сваей дзейнасьці сьлепа паслухмянымі нямецкай акупацыйнай палітыцы, то ахопленая гэтымі рэсортамі дзейнасьць на правінцыі разьвівалася бадай што поўнасьцю незалежна ад цэнтральных ворганаў, насіла яркі беларускі нацыянальны характар і болей або меней замаскавана была варожай нямецкай каляніяльнай палітыцы. Мясцовае насельніцтва, а ў першую чаргу нацыянальны актыў і моладзь, у гэтую нацыянальную работу ўкладалі ўсю сваю душу, увесь энтузіязм і нацыянальную волю. Гэтым і толькі гэтым можна тады вытлумачыць тое зьявішча, што за гады нямецкай акупацыі, якая ў кажным выпадку з гледзішча нацыянальных магчымасьцяў была лягчэйшай за акупацыю бальшавіцкую, Беларусы змаглі дабіцца вялікіх вынікаў у галіне нацыянальнай і культурнай дзейнасьці.

З мамэнтам стварэньня ў канцы 1943 і пачатку 1944 году Беларускай Цэнтральнай Рады ўсе рэсорты ўспомненай нацыянальнай дзейнасьці аўтаматычна перайшлі пад ейнае кіраўніцтва. Значыцца ў гэтай галіне БЦР не палажыла бадай што ніякіх заслугаў, хаця некаторых агульных заслугаў БЦР мы не адкідаем, але іх аб'ектыўна вызнаём. Гэтак ужо БЦР зарганізавала Беларускае Культурнае Згуртаваньне, дзейнасьць якога, праўда, была абмежаваная толькі да большых нацыянальных цэнтраў і таму не магла мець масавага характару, а таксама паклікала да жыцьця Беларускую Краёвую Абарону, якая сталася ўзапраўдным і моцным касьцяком беларускіх нацыянальных збройных сілаў. Да заслугаў БЦР трэба напасьледак аднесьці й тое, што дзякуючы ейным інтэрвэнцыям перад акупацыйнымі ўладамі беларускае нацыянальнае жыцьцё на тэй часьці беларускае тэрыторыі, што была абнятая Генэральным Камісарыятам Беларусі, а тым самым і дзейнасьцю БЦР, пачало разьвівацца больш свабодна й незалежна.

Былі сярод сяброў БЦР і адзінкі нягодныя, якія коштам беларускім стараліся выслужыцца перад акупантам. Але

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Палітычныя Навіны

**(10—16 ЧЭРВЕНЯ 1953)**

**Перад перамір'ем у Карэі.** Ад часу падпісаньня пагадненьня аб вымене ваеннапалонных у Панмунджоне вядуцца ўсьцяж яшчэ перагаворы штабовых ахвіцэраў працоўных бакоў у справе ўстанаўленьня новай дэмаркацыйнай лініі й палагоджаньня дробных адміністрацыйных справаў. Падаецца, што дэмаркацыйная лінія, якая была ўзгодненая ў канцы 1951 году й мела праходзіць нязначна на поўнач ад 38-й паралелі, мае быць зрэвідаваная й зьмененая. Перагаворы вядуцца ў сакрэце. Ня гледзячы на блізкі час перамір'я, на фронтах кітайскія камуністыя й Паўночныя Карэйцы ў сіле трох дывізіяў распачалі 15 чэрвеня найгвалтаўнейшыя ад паўтара году атакі ў сярэдняй і ўсходняй Карэі супраць становішчаў альянтаў. Ім удалося франтовую лінію перасунуць каля трох кілямэтраў на поўдзень.

**Паўдзённая Карэя супраць перамір'я.** Прэзыдэнт Паўдзённай Карэі Сынгман Ры, урад і парлямант і надалей выказваюцца станоўча супраць перамір'я, якое падзяліла-б Карэю на дзьве варожыя часьці, і загражаюць, што яны будуць змагацца адны за задзіночаньне Карэі. Напасьледак паўдзённа-карэйскі парлямант пастанавіў 9 чэрвеня, што ён адкіне ўсякае перамір'е, якое ня будзе гарантаваць вываду з Паўночнай Карэі кітайскіх камуністычных войскаў і разьвязаньня паўночна-карэйскай арміі, і будзе далей прадаўжаць вайну. Прэзыдэнт Сынгман Ры асьветчыў аднаму швэдзкаму карэспандэнту, што Задзіночаныя Штаты мусяць абавязкава падпісаць з Паўдзённай Карэяй узаемны абаронны пакт, каб успакоіць публічную апінію Карэі, якая наважана супраць сяньняшняга праекту перамір'я.

**Няцікавыя вынікі італьянскіх выбараў.** 14 чэрвеня былі абвешчаныя канчальныя вынікі выбараў, праведзеных у італьянскі парлямант 7 і 8 чэрвеня. Урадавая кааліцыя прэм'ера Дэ Гаспэры здабыла 49,79% галасоў. Ей не хапіла каля 57.000 галасоў, каб атрымаць прадугледжаную выбарнай ардынацыяй прэмію, што партыя або блёк партыяў, якія атрымаюць 51% галасоў, забясьпечваюць за сабой дзьве трэйція ўсіх мандатаў у парляманце. Камуністыя, падпарадкаваныя Маскве сацыялістыя групы Нэні, як і нэафашыстыя ў гэтых выбарах здабылі большую колькасьць мандатаў, чымся ў выбарах папярэдніх. Кажны трэйці Італьянец галасаваў за камуністых або за партыі, сьлепа падпарадкаваныя Маскве.

**Францыя яшчэ ўсё бяз ураду.** Пасьля таго, калі францускае Нацыянальнае Сабраньне адкінула бальшынёй толькі аднаго голасу кандыдатуру Жоржа Бідо, які быў згадзіўся стварыць новы ўрад, радыкальны [illegible] сацыялістычны францускі палітык Андрэ Мары 16 чэрвеня прыняў місію стварэньня ўраду, даручаную яму прэзыдэнтам [illegible] Орыёлям перад пяцю днямі.

**Новая нота трох вялікадзяржаваў да СССР у справе Аўстрыі.** Урады ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі пераслалі 12 чэрвеня ноту савецкаму ўраду ў справе заключэньня мірнага дагавору з Аўстрыяй. Гэтыя дзяржавы заклікаюць Савецкі Саюз, каб ён запрапанаваў свой тэкст мірнага трактату з Аўстрыяй, на які ён-бы згаджаўся.

**Новыя «мірныя» гэсты Саветаў у Аўстрыі.** У мінулым тыдні Савецкі Саюз зрабіў рад тактычных гэстаў, якія маюць служыць ягонай «мірнай» афэнзыве. Гэтак ён перадаў аўстрыяцкаму ўраду ўладжаньні Дунайскага параплаваньня між гарадамі Ібс і Пэрзэнбойг, што былі раней нямецкай собскасьцю, скасаваў зонную кантролю на важным мосьце цераз раку Энс, а коратка перад гэтым нагул усю кантролю цераз дэмаркацыйную лінію, згадзіўся на скасаваньне кантрольных пропускаў на перавоз тавараў з савецкай і ў савецкую зону, паднёс палітычнае прадстаўніцтва Савецкага Саюзу ў Вене да рангі амбасады й звольніў цэлы рад аўстрыяцкіх будынкаў, якія былі занятыя савецкімі цывільнымі й вайсковымі ўладамі.

**Савецкія залёты да Турэччыны.** Турэцкі ўрад 11 чэрвеня падаў да ведама, што Савецкі Саюз зьвярнуўся да яго з нотай, у якой Саветы зракаюцца сваіх тэрытарыяльных прэтэнсіяў да Турэччыны і жаданьня вайсковых базаў у Дарданэлях. Турэцкая прэса ня прыдае ніякага значэньня да савецкіх гэстаў, бо Турэччына савецкіх тэрытарыяльных прэтэнсіяў ніколі ня вызнавала. У апошнім часе гэтыя прэтэнсіі былі страцілі ўсякую рэальную сілу, так як Саветы маглі-б іх дасягнуць толькі шляхам вайны.

**Аднаўленьне дыпляматычных дачыненьняў Масква—Белград.** Югаславія й Савецкі Саюз, пасьля перарыву ад сарваньня Югаславіі з камінформам у 1948 годзе, 15 чэрвеня ўстанавілі поўныя дыпляматычныя дачыненьні. Югаслявянскі ўрад згадзіўся, што савецкі дыплямат Васіль Валькаў будзе савецкім паслом у Белградзе. 14 чэрвеня прэзыдэнт Югаславіі маршал Ціта, прамаўляючы на адным мітынгу, асьветчыў, што вымена дыпляматычных прадстаўнікоў з Савецкім Саюзам у ніякім выпадку не абазначае зьмены дасюлешняй югаслявянскай замежнай палітыкі. Пасьля гэтага заступнік міністра замежных справаў Бэдлер паўтарыў перад карэспандэнтамі гэтае асьветчаньне.

**Адэнаўэр патрабуе больш вымоўных чынаў.** Канцлер Заходняй Нямеччыны Адэнаўэр, у вадказ на курс савецкай палітыкі ў Усходняй Нямеччыне (глядзі аб гэтым перадавы артыкул), асьветчыў 14 чэрвеня на мітынгу ў Аўгсбургу, што кіраваная ім хрысьціянская партыя (ЦСУ) станоўча дамагаецца правядзеньня вольных агульнанямецкіх выбараў і стварэньня агульнанямецкага ўраду і што толькі гэта можа быць доказам зьмены савецкай палітыкі да Захаду й Нямеччыны, а ня праводжаныя цяпер мерапрыемствы ў Усходняй Нямеччыне.

**Паважныя неспакоі ў Чэхаславаччыне.** Пасьля правадзеньня чэхаславацкім камуністычным урадам новай валютнай рэформы, нязвычайна крыўднай для працоўных, асабліва работнікаў краіны, у Чэхаславаччыне выбухнула агульнае абурэньне, а ў некаторых мясцовасьцях дайшло да грозных інцыдэнтаў. Гэтак газэта «Праўда», што выходзіць у Пільзьне, паведаміла, што работнікі, абураныя супраць валютнай рэформы, уварваліся ў ратуш, сарвалі партрэты Сталіна й Готвальда, завесілі партрэт Бэнэша, падзёрлі савецкі сьцяг і ўзносілі лёзунгі: «Мы дамагаемся свабодных выбараў».

**Японія хоча выставіць сваю армію.** Упаўнамочаны для справаў бясьпечнасьці японскага ўраду Токутаро Кімура падаў толькі цяпер да ведама амаль ужо гатовы пяцігодні плян разбудовы японскіх збройных сілаў на зямлі, на моры і ў паветры. Ён зацеміў, што цяперашні японскі корпус бясьпечнасьці станецца ядром будучых наземных збройных сілаў, морскі корпус бясьпечнасьці такімжа ядром японскай ваенай марынаркі. Як ведама, падпісаны зь Японіяй мірны дагавор забараняе ёй мець собскія збройныя сілы. Кімура ўважае, што пры двухгоднім пэрыядзе вышкаленьня Японія зможа выставіць армію ў 200.000 чалавек. Таксама Японія апрацавала даўгалетні плян аднаўленьня й разбудовы японскай ваеннай індустрыі.

**Сэнатар Тэфт часова пакінуў становішча старшыні рэспубліканскай фракцыі.** Сэнатар Робэрт Тэфт паведаміў, што з прычыны хваробы ён пакідае часова старшынства рэспубліканскай фракцыі амэрыканскага сэнату.

**Далейшае скарачэньне амэрыканскай замежнай помачы.** Замежна палітычная камісія амэрыканскай палаты рэпрэзэнтантаў прыняла 11 чэрвеня закон 18 галасамі супраць 5 аб скарачэньні замежнай помачы на 1953/54 год на суму 476 мільёнаў даляраў.

**Кароль Камбоджы на дабравольным выгнаньні.** Кароль Камбоджы Народом Сіганоўк, краю ў Індакітай, што знаходзіцца пад францускім пратэктаратам, выехаў у Сыям на дабравольнае выгнаньне на знак пратэсту супраць наступаньня Францыі, якая ня хоча даць Камбоджы поўнай незалежнасьці.

**Штрафныя аддзелы ў войску Ракасоўскага.** Частыя выпадкі дэзэрцыі ў польскім войску Ракасоўскага змусілі рэжым да суровых мерапрыемстваў. Адразу пасьля ўцёкаў на савецкім МІГ-15 паручніка Язьвінскага, старшыня «Рады Дзяржавы» Завадзкі падпісаў дэкрэт, які завастрае кары за адлучэньне ад свайго вайсковага аддзелу. Гэты сам дэкрэт заводзіць у войску спэцыяльныя штрафныя аддзелы.

**Апэль да Бэрыі ў справе інспэкцыі савецкіх лягераў.** Міжнародная камісія змаганьня зь лягерамі прымусовай працы зьвярнулася ў Бруксэлі ўжо трэйці раз з заклікам да Бэрыі, каб ён дазволіў праверыць лягеры прымусовай працы ў Саветах.

**Эгіпскі ўрад раздае аружжа насельніцтву.** Прадстаўнік эгіпскай рэвалюцыйнай рады палкоўнік Гамал Абдэль Нассэр паведаміў 14 чэрвеня, што эгіпскі ўрад, «прыгатаўляючыся да змаганьня супраць Ангельцаў», разьдзяляе між эгіпскім насельніцтвам аружжа.

# Канчальны развал КЦАБ-у

Ніжэй падаём далейшыя інфармацыі аб канфэрэнцыях камісіі прадстаўнікоў Парыскага блёку (Беларусы, Азэрбайджанцы, Армяне, Грузіны, Паўночныя Каўкасцы й Украінцы) з прадстаўнікамі расейскіх партыяў у справе стварэньня запраўднага каардынацыйнага фронту антыбальшавіцкага змаганьня, зачэрпнутыя намі з зусім пэўных крыніцаў.

Гэтак у панядзелак 8 чэрвеня прадстаўнікі Парыскага блёку падалі тэкст сваей дэклярацыі 2-му КЦАБ-у (Керэнскага, Мельгунова й СБОНР-у), якая ў васнаўным зьмяшчае пастуляты, выложаныя ў зьмешчаным у папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» «Мэмарыяле», зложаным Міністэрству Замежных Справаў ЗША і Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму. Атрымаўшы гэтую дэклярацыю, расейскія групы 2-га КЦАБ-у папрасілі адзін дзень перарыву дзеля паразумленьня з сваімі арганізацыямі.

Наступнае паседжаньне адбылося ў аўторак 9 чэрвеня. Сп. Керэнскі ад імя сваей групы даў адказ на ўспомненую дэклярацыю, напісаны на 10 балонах машыновага пісьма. У гэтым адказе Расейцы поўнасьцю адкінулі пляцформу Парыскага пагадненьня, як «прадрашэнскую», заяўляючы, што адзіна правільнай пляцформай зьяўляецца статут КЦАБ-у. Пры гэтым заявілі, што прадстаўнікі нерасейскіх народаў Парыскага пагадненьня прыйшлі на канфэрэнцыю з дэструкцыйнай мэтай развальваць двухгадовую працу КЦАБ-у і што іхная канцэпцыя зьяўляецца шкоднай для справы антыбальшавіцкага змаганьня. Тады прадстаўнікі нерасейскіх народаў запыталі сп. сп. Керэнскага, Мельгунова й Антонава, ад якіх арганізацыяў яны выступаюць. Быў адказ: ад 8 арганізацыяў — г. зн. трох арганізацыяў расейскіх, дзьвюх арганізацыяў украінскіх «фэдэралістых» Гулая й Багатырчука, ад аднэй арганізацыі татарабашкірскай, аднэй калмыцкай і армянскай групы сп. Сааруні. У гэты час сп. Б. Нікалаеўскі становуча заявіў, што ўсе гэтыя «нацыянальныя» арганізацыі, за выключэньнем армянскай, ніколі ў КЦАБ ня былі прынятыя й што ён быццам аб іхным належаньні да КЦАБ-у першы раз чуе. У вадказ на гэта сп. Керэнскі асьветчыў, што яны прынятыя пленумам 2-га КЦАБ-у некалькі дзён перад гэтым. Сп. Нікалаеўскі запатрабаваў заяву гэтую ўнесьці ў пратакол, **як факт канчальнага развалу КЦАБ-у.** Такім чынам развал КЦАБ-у стаўся дакананым фактам. Існуюць цяпер два КЦАБ-ы: адзін, у які ўваходзіць расейская група сп. Нікалаеўскага, ды нерасейскіх пяць групаў (Армяне, Паўночныя Каўкасцы, Грузіны й Азэрбайджанцы), якія й раней былі ў ім, і другі, зложаны з трох расейскіх групаў Керэнскага, Мельгунова й СБОНР-у, армянскай групы Сааруні ды новапрынятых толькі цяпер дзьвюх групаў украінскіх «фэдэралістых», татарабашкірскай і калмыцкай. У далейшым мы для арыентацыі КЦАБ Нікалаеўскага будзем называць першым, а КЦАБ Керэнскага й Мельгунова — другім. А канфэрэнцыі, пра якія гэтта пішам, адбываюць цяпер тры розныя бакі: прадстаўнікі нерасейскіх народаў Парыскага пагадненьня й абодвы ўспомненыя КЦАБ-ы. На гэтай-жа канфэрэнцыі прадстаўнік Расейцаў з другога КЦАБ-у сп. Антонаў «аўтарытэтна» намагаўся даводзіць, што ён, як адзін з найнавейшых эмігрантаў, перакананы, што ў Савецкім Саюзе нацыянальнае пытаньне зусім ня існуе, а таму пазыцыяў, занятых «нацыяналамі», не падзяляюць народы іхных бацькаўшчынаў.

У сераду 10 чэрвеня адбывалася дыскусія над адказам групы Керэнскага. Прэзыдэнт Рады БНР сп. інж. М. Абрамчык у даўжэйшай прамове грунтоўна выясьніў паняцьце «прадрашэнства» й даказаў, што якраз гэтымі «прадрашэнцамі» зьяўляюцца Расейцы. У вадказ яму сп. Керэнскі выступіў супраць існаваньня на эміграцыі эгзыльных урадаў нерасейскіх народаў, якія апошнія хочаць ужо гатовымі прывезьці на бацькаўшчыну. Ён даказваў, што ўжо сам факт існаваньня эгзыльных урадаў і ёсьць «прадрашэнствам», а Расейцы, якія быццам ня ёсьць «прадрашэнцамі», ня маюць і эгзыльнага ўраду. Што датычыцца факту існаваньня эгзыльных урадаў, дык прэз. Абрамчык выказаў жаль, што сп. Керэнскі, пакідаючы ў 1917 годзе Расею, ня вывяз на чужыну свайго ўраду. Пры гэтым ён падчыркнуў, што часовы ўрад Керэнскага ня быў на бацькаўшчыне вызнаны расейскім «учредительным собранием», якое было бальшавікамі разагнанае перад прыняцьцем якіх-небудзь пастановаў, у той час, калі ўрады нерасейскіх народаў, у тым ліку й Беларусаў, былі атрымалі вызнаньне й зацьверджаньне сваімі канстытуантамі. У сувязі з гэтым эгзыльныя ўрады нерасейскіх народаў, як і акты абвешчаньня іхнае дзяржаўнае незалежнасьці ў 1917-18 г. г. ня ёсьць ніякім «прадрашэнствам», але выражэньнем волі гэтых народаў, якая й сяньня ня страціла сваей законнай сілы.

Пасьля гэтага сп. Керэнскі заўважыў, што пазыцыя Беларусаў і Украінцаў у іхным імкненьні да стварэньня каардынацыйнага фронту антыбальшавіцкага змаганьня для яго ясная, але няясная й незразумелая пазыцыя Грузінаў і Азэрбайджанцаў, якія, ад імя тых самых арганізацыяў, падпісалі статут КЦАБ-у, а потым супярэчнае зь ім Парыскае пагадненьне й «Мэмарыял». Тады прадстаўнік Азэрбайджанцаў сп. Шэйк Іль-Іслям заявіў, што паколькі КЦАБ, замест змаганьня з бальшавізмам, павёў нутранае змаганьне й дапусьціў дамінацыю Расейцаў, дык яго трэба рэканструаваць і аздаравіць. Маючы гэта на мэце, Азэрбайджанцы й падпісалі Парыскае пагадненьне і ўспомнены «Мэмарыял». Ён дадаў: нельга тварыць такога антыбальшавіцкага фронту, у якім былі-б няпрысутнымі аўтарытэтныя прадстаўніцтвы Беларусаў і Украінцаў, якія разам твораць 60 мільёнаў насельніцтва.

Тады сп. Міхайлоўскі ад Расейцаў з 2-га КЦАБ-у заявіў, што супольнай формулы ў разьвязаньні нацыянальных пытаньняў знайсьці ня ўдасца, а дзеля гэтага трэба перарваць далейшыя канфэрэнцыі й разыйсьціся. Тады прадстаўнікі Парыскага паразуменьня заўважы-

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# У Бэрліне пралілася кроў

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

лезнай заслонай. Усё гэта, на думку газэты, прымусіла зрабіць часовы адварот ад саветызацыі, якая асабліва ад басьмі месяцаў была праводжаная шпаркімі тэмпамі.

«Нью Ёрк Таймс» уважае, што новыя савецкія крокі ў Усходняй Нямеччыне, Аўстрыі й Турэччыне маюць на мэце прывесьці да лепшых дачыненьняў з урадамі гэтых краінаў і гэтым самым разадзіночыць Захад, ізаляваць Амэрыку й адпіхнуць ад яе ейных саюзьнікаў. Найважнейшай мэтай савецкай палітыкі ёсьць перашкодзіць стварэньню эўрапэйскай арміі.

Падобную пазыцыю заняла й брытанская прэса. Лібэральная газэта «Ньюс Кронікл» галоўную прычыну новай савецкай палітыкі знаходзіць у тым, што Маскве за ўсякую цану ходзіць не дапусьціць да перамогі прыязнага для Заходу канцлера Адэнаўэра на парляманцкіх выбарах, што адбудуцца за тры месяцы. Упадак на гэтых выбарах Адэнаўэра й перамога сацыял-дэмакратаў, якія ў многіх выпадках вядуць антызаходнюю палітыку й зьяўляюцца праціўнікамі ўдзелу Нямеччыны ў эўрапэйскай арміі, была-б раўназначнай з пахаваньнем справы ўзбраеньня Нямеччыны й паўстаньня эўрапэйскай абароннай супольнасьці.

Як мы ўжо пісалі на гэтым месцы ў справе Карэі, што Саветы заўсёды йдуць на ўсякія й, здавалася-б, вельмі далёкія тактычныя адхіленьні ад сваей генэральнай лініі, калі такое адхіленьне прыносіць ім большыя карысьці, чымся страты. А поўнасьцю знэўтралізаваная і абяззброеная Нямеччына ды пры ёй і разззброеная маральна й мілітарна ўся Заходняя Эўропа — гэта выйгрыш, які аплачваецца ў шмат разоў болей, чымсьці часовае тактычнае адступленьне ад акцыі саветызацыі Ўсходняй Нямеччыны.

### А ЯК ЗАРЭАГАВАЛІ НА ГЭТА САМІ НЕМЦЫ

Новая савецкая палітыка ў Усходняй Нямеччыне ня толькі ня выклікала спадзяванага бальшавікамі адпружаньня й задаваленьня, надзеі й пачуцьця хоць-бы нязначнай палёгкі, але, наадварот, абурыла й абазьліла ўвесь нямецкі народ. Насельніцтва Усходняй Нямеччыны зразумела, што абвешчаныя распараджэньні аб адвароце ад саветызацыі, гэта толькі няпэўныя й вельмі сумліўныя поўсродкі. Як на Ўсходзе, гэтак і на Захадзе адзіным жаданьнем Немцаў — гэта вольныя выбары й задзіночаньне ўсяе Нямеччыны. Таму амаль аднача́сна з абвешчаньнем успомненых палёгкаў распараджэньне ўсходня-нямецкага ўраду аб павялічэньні на 10% работніцкай нормы пры тэй самай зарплаце, — справа сама па сабе не такая ўжо кардынальная — паслужыла штуршком для ўсходня-бэрлінскіх работнікаў да генэральнага страйку, масавых дэманстрацыяў, варожых да Саветаў актаў ды крывавых вулічных заварушэньняў супраць камуністых СЕД, ураду Гротэволя й савецкіх акупацыйных уладаў, заварушэньняў, якія нямецкая й заходняя прэса называе антысавецкім паўстаньнем.

Масавыя дэманстрацыі ў усходнім Бэрліне распачаліся ў аўторак 16 чэрвеня, а ўжо наступнага дня прынялі разьмеры масавага паўстаньня. Работнікі и чыноўнікі нязьлічоных прадпрыемстваў абвесьцілі генэральны страйк і сфрамаваліся ў дэманстрацыйныя паходы, якія накіраваліся ў цэнтр гораду. Падземныя й надземныя гарадзкія чыгункі, а таксама й трамваі, былі змушаныя поўнасьцю спыніць рух. З урадавых будынкаў і савецкіх танкаў у розных частках гораду пасыпаліся на дэманстрантаў стрэлы савецкіх салдатаў і г.зв. «народных паліцыянтаў». Ужо ў вабед гэтага-ж дня савецкая гарадзкая камендантура абвесьціла ваеннае палажэньне, усе сабраньні й дэманстрацыі, што перавышаюць 3 асобы прысутных, сурова забараніла, а таксама ўвяла забароненыя начныя гадзіны пад пагрозай кары паводля законаў ваеннага часу. Калі яшчэ перад кульмінацыйным пунктам дэманстрацыяў была абвешчаная па радыё ўрадавая пастанова аб адкліканьні распараджэньня аб павышэньні на 10% работніцкіх нормаў, дэманстранты заявілі, што не пра нормы ім расходзіцца, але пра кардынальныя палітычныя справы, у цэнтры якіх стаіць дамаганьне вольных выбараў і задзіночаньня Нямеччыны. Дэманстранцкія калёны ўвесь час узносілі лёзунгі й несьлі транспарэнты з такімі надпісамі, як «мы патрабуем вольных выбараў і задзіночаньня Нямеччыны», «мы хочам быць вольнымі», «проч зь Іванамі», «проч у Маскву СЕД і ўрад Гротэволя» і г. п. Дэманстранты зьвярталіся цераз рупары да савецкіх жаўнераў у іхнай мове, каб апошнія да іх не стралялі, бо яны змагаюцца ня толькі за сваю, але й іхную справу. Было сьцьверджана, што савецкія жаўнеры, калі атрымлівалі загад страляць да дэманстрантаў, часта стралялі ўверх, а «народная паліцыя», апынуўшыся на Потсдамэр пляц, што гранічыць з заходнім сэктарам сталіцы, кідала аружжа, скідала паліцэйскую форму й масава перабягала на бок заходняга Бэрліну. Калі два ўсходнія бэрлінцы ўлезьлі на Брандэнбурскую браму й сарвалі завешаны на ей савецкі чырвоны сьцяг, дык сотні савецкіх жаўнераў, што знаходзіліся ў гэтым месцы, толькі прыглядаліся да гэтага «злачынства» й зусім ня рэагавалі. Шмат ёсьць забітых і раненых, хаця дакладная іх колькасьць яшчэ невядомая. Адных толькі раненых, якіх удалося перакінуць у заходні сэктар гораду, налічваецца звыш 60 чалавек.

Усьлед за Бэрлінам страйкі й дэманстрацыі распачаліся і ў іншых гарадох Усходняй Нямеччыны, такіх, як Магдэбург, Эрфурт, Вайльгайм, Гальле, Торгаў, Ляйпцыг, Кэмніц, Ена, Баўцэн, а так-жа ў капальнях урану ў Аўэн. У Брандэнбургу паўстанцы штурмам урваліся ў турму й вызвалілі ўсіх палітычных вязьняў. Савецкае радыё й прэса камэнтуе, што бэрлінскія забурэньні зьяўляюцца выкліканымі агентамі заходніх капіталістых і праводжаныя запраданымі ім Немцамі.

Гэтак зарэагавала Ўсходняя Нямеччына на новыя савецкія «палёгкі» й тактычны адварот ад саветызацыі, і таму гаміж новымі распараджэньнямі ўсходня-нямецкага ўраду і паўстаньнем бэрлінскіх работнікаў існуе прычыновая сувязь. Немцы паказалі перад усім сьветам, што ўжо маюць досыць савецкага тэрору, што хочаць быць ад яго вольнымі й задзіночанымі.

Уся заходняя прэса прыдае бэрлінскім падзеям вялізарнае значэньне. «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» выразіўся, што «на вуліцах Бэрліна распачаўся новы пэрыяд гісторыі: лепшы ці горшы — яшчэ няведама». Таму й мы ня будзем згадбаць, у што гэта ўсё выльецца, тым больш, што й самыя падзеі, ня гледзячы на ўвядзеньне ў Бэрліне ваеннага палажэньня, у час пісаньня гэтага артыкулу яшчэ ня спыніліся. Аднак некаторыя мамэнты зьяўляюцца бясспрэчнымі: паўстаньне бэрлінскіх работнікаў поўнасьцю здыскрэдытавала савецкую сыстэму па абодвых баках зялезнай заслоны і вырвала бальшавіком з рук вялікі козыр, што быццам апанаваныя імі народы гэтую сыстэму ляяльна вызнаюць і шчыра падтрымліваюць.

**Язэп Каранеўскі**

**АНДРЭЙ МРЫЙ** 6)

# Запіскі Самсона Самасуя

**(Працяг)**

### IX. ТОНКАЯ МЭХАНІКА

А далей падзеі разгарнуліся шалёным тэмпам. Мы склікалі нараду па культпрацы ў раёне. Былі прадстаўнікі ад мясцкомаў, школ, жанаддзелу, райкому, камсамолу. На тэму аб спосабах ажыўленьня культпрацы даклад зрабіў я. Удзельнікам нарады я прапанаваў:

— Неабходна ў нардоме правесьці шэраг лекцыяў на жыватрапетныя тэмы!

— Заснаваць гурткі пры клюбах, асабліва рэкамандаваць два гурткі: упартай самаадукацыі і гурток па вывучэньні пэрспэктываў!

— Увесьці ў практыку культпрацы індывідуальныя даклады паасобных сяброў прафаб'яднаньняў. Сутнасьць іх: таму ці іншаму сябру ў вабавязкавым парадку прапануецца зрабіць даклад агульнаму сходу аб сваёй грамадзкай, савецкай і сямейнай чыннасьці за вядомы пэрыяд.

— У плянавым парадку правесьці па вёсках абгаварэньне двох дакладаў: аб Сун-Ят-Сэне і аб юрыдычным ці фактычным шлюбе.

Прапановы былі прыняты. Спрачаліся толькі аб індывідуальных дакладах і даручылі, як першую спробу, на бліжэйшым агульным сходзе заслухаць такі індывідуальны даклад. Нарада вызначыла тэмы папулярных лекцыяў і вылучыла лектароў. Мамону даручылі лекцыю «Аб стварэньні сьвету», мне — «Аб гангрэнах нашага часу», тав. Домне — «Аб ролі жанчыны наогул і ў прыватнасьці», настаўніку Гылі — «Аб рэлігіі, як стадыі масавага шалёнства».

Калі абмяркоўвалі пытаньне, каму-ж даручыць гэты індывідуальны даклад, я высунуў кандыдатуру Ліна і Крэйны. Гэтыя кандыдатуры выклікалі агульнае задзіўленьне, хацелі адхіліць іх, але я лоўкім чынам замацаваў за імі. У мяне ў галаве ў гэту хвіліну варушыўся цікавы плян помсты і Ліну і ёй, Крэйне.

Не магу я забыцца на яе. Гэта вышэй мае прыроды. Як Гарачы сьпявае ў сваім рамансе:

> Лягу спаць я на белай ложы,
> Каханьне спаць мне не дае!

У вапошні момант дзяўчына вельмі наруглівай зрабілася. Робіць усё насупор мне. У сваім пакоі вельмі гучна, выклікаюча сьмяецца. Літаральна кажучы — іграе на струнах мае душы. Калі я загавару зь ёю, чым-небудзь зачэпіць за жывое мяне, у вочы рагоча, як трохгадовая жаробка.

— Калі-ж ты такую лінію вядзеш, смазьлівая каньюнктура розных частак цела, дык і я-ж давяду табе цьверж свае натуры! — зларадасна думаю я, ідучы з нарады.

Праз тыдзень прызначылі агульны сход. На абвестку яго занесьлі лекцыю Мамона і індывідуальны даклад Ліна. Сабралася шмат народу, што і клюб не зьмясьціў усіх. Прышлося адчыніць дзьверы і з вуліцы слухаць.

Мамон прышоў і нават ня ведаў, што яму далі даклад — лекцыю. Тав. Мілёнак сказаў:

— Праз 10 хвілін твая лекцыя, тав. Мамон!

— Мая лекцыя! Аб чым?

— Аб стварэньні сьвету.

— Дзіўна!.. Нічога ня зробіш! Добра! Што-небудзь скажу!

I знайшоў, што сказаць. Нават разьвесяліў.

А вось калі чарод дайшоў гаварыць Ліну, той быў вельмі зьбянтэжаны. З пуду пачаў гаварыць у нос, часта ваду піў і нёс нейкую лухту, нявытрыманую на ўсе 100 працэнтаў.

К канцу свайго дакладу Лін увесь пад пенаю стаў. Я ўзброіўся блёкнотам і даў яму запытаньні: як ён праводзіць свой вольны час, дзе бывае, куды ў госьці ходзіць, у каго ён быў 15, 18, 23 і 25 чэрвеня, якія яго адносіны да жанчын наогул і да супрацоўніцы РВК тав. Шуфер Крэйны ў прыватнасьці, што адчувае ён, калі сядзіць побач з Крэйнай Шуфер і, урэшце, як выконвае тав. Лін свае абавязкі перад сям'ёй.

Другі, больш устойлівы індывід, магчыма, і даў-бы мне належны і рашучы адбой, але Ліна я захапіў неўспадзеўкі і ён яшчэ больш замітусіўся. Толькі цяпер ён зразумеў, што гэта я наваліў на чалавека гэты недарэчны для Ліна даклад. Лін глядзеў на мяне, як выпса, як зьвярына затуканая.

Крэйна сядзела чырвоная, як каліна ўвосень, не падымаючы вачэй угору.

Я востра перажываў перамогу. У спрэчках сказаў:

— Наш абавязак зьвярнуць увагу на жыцьцё і паводзіны сваіх таварышаў. У іх жыцьці ёсьць гангрэны, якія трэба выразаць, зьнішчыць, не даваць разьвівацца. Мы павінны сыстэматычна правяраць становішча працы на нашых вузлавых вучастках працы. Трэба ў кажнага праверыць якасьць працы, яе зьмест. Праца павінна быць творчая, сьвядомая, не такая, як у тав. Ліна. Ён нават ня ведае, дзе быў, што рабіў, жыве бяз тэорыі, бяз пэрспэктываў. А мы павінны памятаць, што бяз тэорыі чалавек лезе ў балота. Тав. Лін ня толькі сам гэта робіць, але цягне ў балота й другіх. Мы павінны дзерганучь яго і сказаць: «Тав. Лін, прыдзі ў сябе, ты паўзеш па гнілому шляху распусты!»

Лін не дачакаўся заключнага слова:

— Здахата на ўсіх, на вас! Чаго ад мяне хочуць! Яшчэ-ж нічога ня было! Сьвішчу я на ўсе гэтыя самасуеўскія запытаньні, прапановы, парады. Якая яму справа, дзе я быў? Дзе быў, там няма; куды прышоў — там ёсьць! Усюды нос свой утачыць хоча! Якая яму справа? Кажны чалавек сваім стылем жыве! Тут, таварышы, асабістая глеба, што ён прычапіўся да мяне! Ён закахаўшыся ў Крэйну Шуфер, дык з хворай галавы валіць на здаровую.

— Гэта ня факт! — пачырванеўшы, закрычаў я.

— Гэта ня факт, а фактар! — сказаў Лін.

На дзіва знайшліся людзі, якія пачалі абараняць пазыцыю Ліна. Супроць мае лініі выступілі тэлефаністы Сьвердзялюк, тэлефаністка Горбік, Зоя Люсарэнка. А самае няпрыемнае на гэтым сходзе было тое, што адзін таварыш зь Менску, які рэвізаваў РВК, выслухаўшы нашы спрэчкі і даклады, заявіў:

— Толькі злачынная фантазія можа прыдумаць такую нуду, глупства і дзікунства. Я прапаную кароткую рэзалюцыю — аддаць тав. Самасуя таварыскаму суду за такія даклады, за такую культпрацу!

Я не пабаяўся, што ён зь Менску, і супакойна сказаў:

— Гэта — ініцыятыва профбюро, я толькі выконваю яго даручэньні!

Менскі таварыш абстрыкаўся. Але страшэнны тлум узьняўся на сходзе. Замужнія сямейныя жанчыны прынялі мой бок і з пагардай глядзелі на Крэйну, якая разьбівае сям'ю Ліна, а ўся моладзь рашуча выступіла за Крэйну і, не саромячыся, у вочы гаварыла мне, нібы я сваімі ганебнымі ўчынкамі і прыдзірствам узмацняю шэрагі мяшчан. Нехта нават прыкруціў электрычнасьць і тады другі правакатар пусьціў у мяне скруткам паперы. Гэтыя жарты мне не спадабаліся. Я плюнуў, хутчэй вышаў з клюбу і паляцеў дамоў.

На плошчы мяне дагнаў Лін, ішоўшы падпашку з Крэйнай. Нахабна загаварыў штучна-добрым голасам:

Я раю вам, тав Самасуй, жаніцца! Гэта для вашай асобы неабходна, вы сталі-б больш супакойнымі, не рабілі-б такіх дураскокаў, як сяньня, а галоўнае — дурні не зьяўляліся-б на сьвеце!

Я фур'ёзна падскочыў да Ліна, схапіў яго за грудзі і нічога лепшага ня прыдумаў:

— Ты паскуднік, цэнтральны гад!

Лін моўчкі схапіў мяне за рукі, крыжом перакруціў іх і пры ліхтарным сьвеце насьмішліва глядзеў у мае вочы.

— Я запішу табе гэта крывавымі літарамі! — вырываючыся зь яго рук, сказаў я, адчуваючы, што ён мацней за мяне і ўжыць цяпер вулічную фізкультуру будзе для мяне небясьпечна.

### X. СЬМЕРЦЬ МІЛЭДЗІ

Незадача ня прыходзіць адна, а заўсёды цягне за сабою шэраг іншых. Цяпер я хацеў-бы, каб усяго гэтага ня было: супакойна жылося-б, і жывот лепш варыў-бы! Цяпер-жа літаральна паносная гісторыя! Усе глядзяць на мяне, як на пошасьць якую, ледзьве пальцамі ня тыкаюць.

Я і сам ня ведаю, які чорт лысы падштурхнуў мяне прыняць удзел у гэтай шалёнай аблаве на бяспрытульных сабак!

Праз два ці тры дні пасьля апісаных вышэй падзеяў прыходзіць да мяне ў РВК старшыня саюзу паляўнічых тав. Дулянок і кажа:

— Трэба як мага хутчэй зрабіць аблаву на сабак, аб якой, памятаеце, мы з вамі гаварылі. Тады прышлося адкласьці. А цяпер іх столькі набегла, што жудасьць бярэ. Тэрарызуюць насяленьне. Ёсьць выпадкі шалёных. Далей марудзіць нельга.

— Рабеце! — кажу я. — Нічога ня маю супроць, нават вітаю. Толькі гэта не з мае кампэтэнцыі. У мяне культпраца.

— Добра вам гаварыць: рабеце! У нас няма кіраўніка, каб правесьці гэту складаную апэрацыю.

— А вы? Старшыня павінен ведаць, як арганізацыйна афарміць аблаву!

— Я нават і страляць ня ўмею — прызнаўся ён. — Мяне высунулі, каб я праводзіў пэўную лінію. А вось вы, як усе кажуць, можаце зварганіць ўсё гэта ў 5 хвілін.

— Ня ў пяць. Але мне няма часу.

— Дык гэта-ж ня ў дзень будзе, а на золачку, як толькі разьвіднее, калі сабакі...

— На зарэ ты яе ня будзі — сказаў я мэлянхольна, успомніўшы чорныя вочы Крэйны. Не, не і не! Не хачу я гэтай сабачай какафоніі! У мяне вушы будуць балець.

# Вызвольная канцэпцыя Джэмса Бэрнгэма

**(ЗАКАНЧЭНЬНЕ, ПАЧАТАК У № 23)**

**II**

**ПРАБЛЕМА ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ**

У вадрозьненьне ад афіцыяльнай амэрыканскай палітыкі, якая, высоўваючы перад сьмерцю Сталіна лёзунгі вызваленьня, канкрэтна мела на думцы толькі народы г. зв. сатэлітных краінаў, апанаваных Саветамі ў выніку апошняй вайны, такое штучнае абмежаваньне вызвольнай акцыі Бэрнгэм станоўча адкідае, як несправядлівае й шкоднае. Ён ставіць пытаньне ўва ўсей ягонай шырыні й паўніні, калі гаворыць: **«палітыка вызваленьня адносіцца да ўсей савецкай імпэрыі, значыцца ня толькі да тэрыторыяў, якія заграбіла Расея на працягу другой сусьветнай вайны і пасьля яе. Такога абмежаваньня не ўдалося-б абгрунтаваць маральна, а практычна вытварыла-б непрабытую пропасьць між насельніцтвам даўнейшага Савецкага Саюзу і насельніцтвам тэрыторыяў сьвежа заграбленых».**

З гэтага пытаньня лягічна вынікае другое: якую прыняць нацыянальную канцэпцыю на шматнацыянальнай тэрыторыі Савецкага Саюзу — ці канцэпцыю захаваньня цэласьці й непадзельнасьці савецкае імпэрыі, ці ейнага распадзелу на паасобныя нацыянальныя дзяржавы? Бэрнгэм, ня ў прыклад іншым заходнім палітыкам, знаходзіць на гэтае пытаньне адказ ясны й нядвузначны: **«Было-б сьмешнай справай інтэрпрэтаваць змаганьне з камунізмам як змаганьне за ўтрыманьне расейскай імпэрыі».**

Далей ён зазначае: **«Палітыка вызваленьня вызнае права самавызначэньня, а гэтым самым права да незалежнасьці ўсіх народаў савецкай імпэрыі, ня выключаючы народаў, паложаных унутры перадваенных межаў гэтае імпэрыі. Наколькі вызваленьне практычна вядзе да разьбіцьця сяньняшняй савецкай імпэрыі на некалькі тузінаў поўнасьцю незалежных, сувэрэнных і між сабой рывалізуючых дзяржаваў, будзе мець гэта прынамсі той вынік, што адхіліць напасьледак непераноснае загражэньне, якое творыць падпарадкаваньне ўсей сярэдняй Эўразіі аднаму зачэпнаму палітычнаму апарату».**

З такое эвэнтуальнасьці, што Савецкі Саюз быў-бы разьбіты на «некалькі тузінаў» рывалізуючых між сабой дзяржаваў, амэрыканскі аўтар знаходзіць выхад у магчымасьці фэдэрацыі ці іншых дзяржаўных сувязяў народаў падсавецкага Ўсходу. Сьцьвердзіўшы, што **«навет такая супэр-балканізацыя была-б у кажным выпадку лепшая ад сяньняшняга стану рэчаў, але далёкай была-б ад ідэялу»,** ён уважае, што яна, аднак, зрабіла-б труднай пасьпяховую эканамічную нармалізацыю Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, удзержывала-б гэты раён у стане заўсёднай нераўнавагі, а мільён дробных рывалізацыяў і спрэчак амаль няўхільна загражаў-бы ваннай ці чымся іншым, што мала розьніцца ад ваеннага стану.

Маючы ўсё гэта наўвеце, Бэрнгэм гаворыць: **«Гэтых кансэквэнцыяў можна ўнікнуць шляхам дабравольнага задзіночаньня ў такой ці іншай ступені, у тэй ці іншай форме Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы. Усходня-эўрапэйская фэдэрацыя, якая тварыла-б бясспрэчна часьць сфэдэраванай Эўропы, згаджалася-б ня толькі з канцэпцыяй вызваленьня, але творыць навет неабходную яе ўмову».** Абараняючы такім чынам ідэю фэдэрацыйную, аўтар разумее яе зусім правільна й справядліва, а ня так, як уяўляюць яе расейскія эміграцыйныя палітыкі й іхныя амэрыканскія апякуны. **«Вызваленьне, незалежнасьць, фэдэрацыя — вось тры стадыі аднаго палітычнага ланцуга»** — заяўляе Бэрнгэм. Пераводзячы на простую мову, гэта абазначае, што паняволеныя бальшавізмам нерасейскія народы спачатку мусяць быць вызваленыя (першая фаза), потым атрымаць поўную дзяржаўную незалежнасьць (другая фаза) і напасьледак між сабой сфэдэравацца (трэйцяя й апошняя фаза), але пад незапярэчнай умовай, што гэтае сфэдэраваньне можа быць толькі д а б р а в о л ь н а е.

Што тычыцца становішча беларускага народу, дык Бэрнгэм, апіраючыся на апініі эмігрантаў з за зялезнай заслоны, як з самага Савецкага Саюзу, гэтак і з сатэлітаў, прыхіляецца да думкі, што Беларусы, як і Ўкраінцы й Грузіны, скарэй за ўсё захочаць увайсьці ў фэдэрацыйную лучнасьць з Захадам, чымся з народам расейскім. Ён гаворыць даслоўна: **«Бальшыня нерасейцаў уважае за пэўнае, што такія народы, як Украінцы, Беларусы й Грузіны, будуць шукаць сувязяў з Захадам, чымся з Расеяй».** Далей ён цьвердзіць, што народы нерасейскія могуць быць заахвочаныя да пасьпяховага супраціву толькі пры поўнай пэўнасьці, што атрымаюць нацыянальную й сацыяльную свабоду, бо балючыя дасьветчаньні гісторыі адабралі масам ахвоту да простай замены аднэй формы расейскага паняволеньня на другую. Напасьледак дадае, што такая пэрспэктыва вызваленьня ня ёсьць супярэчная з воляй і інтарэсамі расейскага народу, які, нацярпеўшыся па горла пад ботам сваей собскай імпэрыялістычнай кіруючай клясы, можа толькі цешыцца, што зь імпэрыялістычнага прыгнятальніка расейская дзяржава станецца прыязным суседам іншых вызваленых народаў.

Сьцьвердзіўшы, што скрайныя пагляды ўнутры расейскай эміграцыі імкнуцца да новарасейскага імпэрыялізму, а скрайныя пагляды другога боку — да антырасейскага становішча, аўтар радзіць, што Амэрыканцы павінны ўнікаць абедзьвюх скрайнасьцяў і сяньня не павінны плянаваць поўнай палітычнай рэканструкцыі савецкай тэрыторыі пасьля зьнішчэньня бальшавізму. Але адразу-ж пасьля гэтага дадае, што нельга гэтай важнай праблемы пакінуць зусім без адказу, бо яна датычыць штодзеннай практыкі палітычнага змаганьня.

Шмат Бэрнгэм пасьвячае месца і ўвагі гэтым, як ён іх называе, «савецкім нацыянальным праблемам» і разглядае іх як з гледзішча міжнароднай справядлівасьці й этыкі, гэтак і палітычнай мэтазгоднасьці й рэальнай карысьці для самай Амэрыкі. Ён аўтарытэтна сьцьвярджае, што перадваенны Савецкі Саюз не тварыў аднаго народу, але сыстэму народаў, у якой Расея займае дамінуючую пазыцыю й праводзіць у дачыненьні да іх імпэрыялістычную палітыку. Хаця Расейцы твораць найвялікшую нацыянальную групу ў СССР, аднак прапарцыянальна да ўсяго насельніцтва зьяўляюцца ў меншыні. Ён уважае, што на агульную колькасьць 200 мільёнаў насельніцтва Савецкага Саюзу прыпадае на Расейцаў толькі 90 мільёнаў, астальную часьць твораць Украінцы, Беларусы, музулманскія народы, народы Каўказу, Грузіны, Азэрбайджанцы й іншыя. Бальшыня гэтых народаў была падбітая Расеяй, але ніколі ня была спацыфікаваная ёй. Наадварот, яны заўсёды змагаліся супраць Расеі, а бальшыня зь іх у канцы першай сусьветнай вайны абвесьціла свае незалежныя дзяржавы, падбітыя потым чырвонай арміяй. Калі-ж у 1941 годзе Нямеччына пачала інвазію Савецкага Саюзу, нерасейскія народы нанава прабавалі выкарыстаць гэтую нагоду, каб адарвацца ад Масквы, а жаўнеры нерасейскага паходжаньня пераходзілі сотнямі тысячаў на бок нямецкі, пакуль ня перакаваліся, што Гітлер нясе ім ня вызваленьне, але новае паняволеньне. Таму абазначаньне ўсіх жыхароў Савецкага Саюзу словам «Расейцы», як гэта прывыклі рабіць на Захадзе, зьяўляецца груба няправільным.

Далей Бэрнгэм асабліва акцэнтуе факт, што Крэмль поўнасьцю дацэньвае патэнцыяльную палітычную энэргію гэтых народаў і тарнуе да іх палітыку вельмі асьцярожную, перамешваючы пэрыяды тэрораў і грубой русыфікацыі інтэрлюдыямі цьвяроза прадуманых канцэсіяў і пахлебстваў. Стварыўшы іхныя «незалежныя» рэспублікі, Масква паклікала навет «міністэрствы замежных справаў» Украіны й Беларусі, а так-жа ўкаранавала пасьпехам у Ялце дапушчэньне гэтых рэспублікаў у склад Задзіночаных Нацыяў. У вадказ на цьверджаньні бальшыні заходніх камэнтатараў, якія тлумачылі гэта імкненьнем Расеі да атрыманьня ў ЗН большай колькасьці галасоў, Бэрнгэм дае сваё, адзіна правільнае, выясьненьне: **«Ня выключаю, што гэта быў адзін з пабочных матываў — хаця Масква заўсёды здавала справу, што некалькі галасоў болей ці меней ня мае ніякага значэньня. Галоўным матывам было бясспрэчна імкненьне да адкрыцьця кляпы бясьпечнасьці для ўкраінскага й беларускага нацыяналізму».**

З аўтарскіх разважаньняў і вывадаў нядвузначна вынікае, што нерасейскія народы СССР зьяўляюцца большымі ворагамі бальшавікоў, маюць большыя патэнцыяльныя сілы супраціву, чымся Расейцы, а таму ў вызвольнай канцэпцыі і антыбальшавіцкім змаганьні Амэрыканцы ў першую чаргу павінны на іх абапірацца. Гэтыя народы церпяць ад камунізму падвойна: да ўсіх няшчасьцяў і бедаў, якія прынёс камунізм усім народам Савецкага Саюзу ўключна з народам расейскім, нерасейскія народы яшчэ церпяць і жорсткае нацыянальнае перасьледваньне, на што ня могуць жаліцца Расейцы.

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

# Нельга зьмешваць розных паняцьцяў

**(Заканчэньне з 1-ай балоны)**

такія адзінкі былі й паза БЦР. Сам факт існаваньня БЦР, як і ейную дзейнасьць у ўмовах нямецкае акупацыі мы ацэньваем пазытыўна. БЦР — гэта была легальная форма нацыянальнае арганізацыі, адзіна магчымая ў умовах гітлераўскае акупацыі, і была яна ў той час і пры тых умовах карысная, ня гледзячы на тое, што была створаная й усьцяж кантраляваная нямецкім акупацыйным апаратам. Такімі-ж карыснымі й навет заслужанымі перад народам былі такія, падпарадкаваныя БЦР, як створаныя ёю, гэтак і перад ёй існуючыя нацыянальныя арганізацыі й фармацыі, як Беларуская Краёвая Абарона, Беларуская Народная Самапомач і Саюз Беларускае Моладзі, ды таксама ня гледзячы на тое, што й яны былі ў некаторай меры створаныя Немцамі і ў галоўных штабах некаторых зь іх, але ня ўсіх, сядзелі часамі нямецкія агенты беларускае нацыянальнасьці. Не галоўныя кіраўніцтвы надавалі агульны тон гэтым арганізацыям, але мясцовы нацыянальны актыў, які патрапляў кажную нямецкую канцэсію, накіраваную на ўмацаваньне акупацыйнага рэжыму, умела выкарыстоўваць для собскіх нацыянальных мэтаў.

Вызнаючы тады вялікую карысьць і бясспрэчныя нацыянальныя заслугі ўсіх гэтых беларускіх арганізацыяў і фармацыяў уключна з самой БЦР, мы яшчэ раз з асаблівым націскам сьцьвярджаем, што былі гэта адзіна магчымыя легальныя формы нацыянальнай дзейнасьці ў умовах жорсткае й безагляднае акупацыі, у той час патрэбныя й карысныя, але зусім недастатковыя й навет неадпаведныя ў новых дэмакратычных абставінах, у якіх знаходзімся сяньня на эміграцыі. Нельга-ж бо. як-ні-як, створанай нямецкімі акупантамі БЦР уважаць сяньня за аўтарытэтнае беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва й законны носьбіт сувэрэнных правоў беларускага народу, ані г. зв. «Другога Ўсебеларускага Кангрэсу», скліканага на загад Немцаў і імі-ж рэжысэраванага, за свабоднае выяўленьне волі беларускага народу. Такое ўважаньне ня мае пад сабой ніякай юрыдычнай асновы, а з гледзішча палітычнага зьяўляецца нявымоўна шкодным, бо паказвае, што створаны Немцамі эрзац мы прыймаем за собскі салідны, аўтарытэтны й законны твор. Гэта добра зразумела тая бальшыня былых сяброў БЦР, якая яшчэ ў 1945 годзе выйшла зь ейнага складу: выйшла не па тое, каб закляйміць сваю папярэднюю дзейнасьць, бо дзейнасьць гэтая была ў той час правільнай, але толькі таму, што пры новых умовах ня толькі ня мела-б ніякага сэнсу, але зьяўлялася-б нат шкодным працягваньне тых арганізацыйных формаў, якія страцілі ўжо ўсякую вартасьць разам із зьнішчэньнем гітлерызму.

Адсюль ясна вынікае, што сяньня мы не павінны мяшаць і злучаць у вадно ўзапраўды вялікай нацыянальнай дзейнасьці, праробленай найбольш ахвярнымі элемэнтамі нашага народу за часоў цяжкага гітлераўскага рэжыму, з тымі арганізацыйнымі ейнымі формамі й афіцыяльнымі праграмамі, якія былі накінутыя акупацыйнымі ўладамі. Гэтая дзейнасьць і ейныя прагожыя вынікі астануцца назаўсёды й будуць залатымі літарамі ўпісаныя на балонах гісторыі нашага вызвольнага змаганьня. Але тыя, сілком накінутыя арганізацыйныя формы й казённыя праграмы гэнае дзейнасьці, — маем на думцы БЦР і г. зв. «Другі Ўсебеларускі Кагрэс» — зь якіх нелегальна й напоўлегальна патрапіла выламацца лепшая частка нашага народу й накіраваць іх не на шкоду, але на выразную карысьць, сяньня павінны шчэзнуць, як і шчэзьлі іхныя стваральнікі й інсьпіратары — нямецкія нацыстыя.

**Ст. Крушыніч**

---

— Тав. Самасуй! У нас няма іншага выхаду, толькі прасіць вас. Вы і страляеце добра і найлепшы арганізатар.

Так падмаўлялі яны мяне. Прызнаючы мяне найлепшым арганізатарам, яны лілі ваду на млын майго гонару і ўжывалі лоўкі падхалімаўскі мэтад. Я толькі цяпер пачынаю бачыць усе гэтыя спружыны. Магчыма, Дулянка падгаварыў Лін, каб чым-небудзь дыскрэдытаваць мяне або замарыць грамадзкай чыннасьцю.

Пасьля доўгіх размоў я даў згоду. Я накідаў плян атакі на сабак, вызначыў на пляне мястэчка пункт для кажнага застрэльшчыка, вылучыў ударныя адзінкі, запрапанаваў мець двох санітараў на выпадак раненьня і г. д. Я прадбачыў усё.

Па дадзеных мясцовай статыстыкі, такіх сабак было ня менш 73 асоб — лічба ў нашых умовах жудасная.

У склад нашай застрэльнай дружыны ўваходзілі, апрача Дулянка і мяне, які атрымаў вярхоўную ўладу, яшчэ 7 міліцыянэраў, на чале з начмілам Какоцькам, начпошты Белабрыська, настаўнік Ігнат Міхайловіч, камсамолец Дусік, настаўнік Сашок і іншыя сябры саюзу паляўнічых, усяго лікам да 30 асоб.

Перад аблавай была нарада, на якой падрабязна разглядалася баявая задача, і кажнаму было дадзена пэўнае заданьне.

Апэрацыя праходзіла бліскуча, як па нотах усё ігралася. Галоўны ўдар мы нанесьлі каля местачковай бойні, дзе звычайна ў гэты час бадзяюцца, задраўшы хвасты, сабакі.

Палажыўшы там каля дзесятка забітымі, мы галоўную сабачую масу пагналі па вуліцах мястэчка, дзе іх чакалі застрэльшчыкі. І вось узьнялася такая страшэнная страляніна, што абудзіліся грамадзяне. Іх спалоханыя твары высунуліся ў вокны і крычалі: «Ай, ратуйце! Рэжуць!»

Мы супакойвалі народ, як умелі, і некаторым санітары нават давалі валер'янавыя кроплі — так добра ўсё было прадбачана.

Толькі аднаго я не прадбачыў, Калі ў стратэгічным захапленьні я бег па Больнічнай вуліцы, дык каля мундому № 5 на мяне накінулася нейкая жоўтая сучэнцыя і, ні слова ня кажучы, пачала шкумардзіць мае зусім яшчэ новыя штаны. Яна такія вострыя зубы мела, што праз мінімальна кароткі момант адной штаніны як ня было. Я трэснуў яе па сабачай мордзе. Тады яна зь нячуваным гавам укусіла мяне за абедзьве лыткі і нават адарвала ладны шматок мяса.

Я ледзьве ня страціў прытомнасьць і нечалавечым голасам зароў:

— Ратуйце! Паміраю! Шалёны сабака! Я галасаваў, што было моцы, яна яшчэ з большым імпэтам ірвала мяне.

Тады, кіруючыся нейкім інстынктам самазахаваньня, я бахнуў у галаву ёй. Сучэнцыя цяўкнула і скончыла жыцьцё.

Я перавёў дух, прысеў на лавачцы і хацеў клікнуць санітара, каб ён ёдам мяне памазаў ці што. Сабака наяўна быў шалёны.

Раптам дзьверы адчыніліся, выскачыў ускалмычаны Лін і, пабачыўшы здарэньне, не сваім голасам закрычаў:

— Што ты зрабіў, гад? Нашто ты забіў яе? Я-ж цябе самога прыкончу! Лін кінуўся да сабакі і, падымаючы яго няжывое цела, сумна гаварыў:

— Мілэдзі, Мілэдзечка! За што ён цябе? Што ты яму, няшчасная, зрабіла? Кроў гаду на вочы наступіла! Вось яны крывавыя літары!

Лін схапіў нейкую даўбешку і кінуўся на мяне. А я накіраваў стрэльбу прама ў яго галаву. Гэта мела эфэкт. Лін перапалохаўся і, як агонь, пыхнуў праз прасла. Перелязаючы, зачапіўся за цьвік, штурмануўся аб зямлю і разарваў штаны.

Кроў цуркам лілася з мае нагі і трэба было ратавацца. Хоць сабака і добраякасны быў, але ўсё бывае. Можа ён толькі-толькі ашалеў.

Я выбыў з шэрагаў застрэльшчыкаў. Дружына засталася бязь кіраўніка. Праўда, апэрацыя ня спынілася і мела здавальняючыя вынікі (было забіта 20 эгзэмпляраў — процант значны), але разьвіталіся з жыцьцём некаторыя сабакі, якія нічога агульнага ня мелі зь бяспрытульнасьцю і загінулі за сваю салідарнасьць.

На мяне некаторымі грамадзянамі была пададзена скарга тав. Сому і ў нарсуд. Такім чынам, мяне ў два забоі пачалі біць. Бясспрэчна, усё гэта падвухрыў Лін. Сом паклікаў мяне і зноў наваліўся:

—Які ты вапрук! Дзе ні павернешся — шкоды наробіш. Зноў на цябе нездаволены. І адкуль у цябе юр гэты? Жаніўся-б ты, Самасуй, можа тады было-б куды энэргію пхаць!

— Я, тав. Сом, не хацеў у гэту гісторыю ўлязаць. Мяне гвалтам уцягнулі. Апрача таго, я шмат пацярпеў! Вось бачыце!..

— Ведаю, ведаю. Трэба было-б цябе ня так яшчэ! Трэба было-б табе...

Я вышаў з габінэту і, ня гледзячы на боль, які адчуваўся ў назе, упарта працаваў увесь дзень. Думкі самыя невясёлыя раіліся ў маёй галаве. Я праклінаў сябе, што «чырвонымі літарамі» адпомсьціў Ліну, забіўшы яго сабаку.

— Прарок! Скула мне ўбок! — касьціў я сам сябе.

### XI. ДУШ!

За сьмерць сваёй Мілэдзі Лін распачаў плянавую помсту. Кажны дзень у РВК ён соты раз апавядаў пра трагічнае забойства сваей сучкі.

— Якая разумная была мая Мілэдзі! Разумней за некаторых людзей. Як добра яна бараніла сваё жыцьцё! Усе штаны яму ў мэтлахі разьнясла, за нос, за вуха, за ногі ўкусіла Няшчасная! Што ты зробіш! Гэта-ж не чалавек із стрэльбай! Чым яна сябе абароніць! І такога ні ў чым непавіннага сабаку забіць!

Так гаварыў за сьценкай Лін.

А пасьля абеду ён прыходзіў да Крэйны. Прыходзілі і другія галдадрымы, мае ворагі. Усе яны садзіліся на лавачцы каля саду, супроць майго вакна, і Лін пачынаў апавядаць пра гэройскую сьмерць сваёй сучкі. Тут ён яшчэ больш дадаваў: нібы яна мяне скусала ўсяго і сьпераду і ззаду, нібы я тры разы страляў і ўсё не пападаў. Лін так рассусоліваў гэту гісторыю, што немагчыма было ўтрываць. Адзін раз я высунуўся ў вакно і закрычаў:

—Брэшаш ты, паганая рыба, ня так усё было.

Усе нахабна засьмяяліся. Гэта вывела мяне з раўнавагі. Я зноў пачаў шукаць моманту, каб адчапіцца ад Ліна.

Крэйна канчаткова адмяжавалася ад мяне. Не хацела і слова сказаць мне, хоць я асабіста ні словам, ні пальцам ніколі не пакрыўдзіў дзяўчыну. Яе раўнадушша распаляла мяне. Яе вобраз сьніў я кажную ноч, хоць, па праўдзе сказаўшы, сон ня браў мяне. Перад самым сьветам з пагулянкі прыходзіла Крэйна, яе праводзіў Лін. Яго крокі чуліся пад вакном, і мяне ахапляла зьвярыная лютасьць.

«Чаму я прычапіўся да Крэйны? Няўжо безь яе мне сьвет зачыніўся?» — часта думаў я і, каб забыцца на Крэйну, маляваў яе ў сваёй думцы ў самым агідным стане, у самым неэстэтычным фізіялягічным працэсе.

Нічога не дапамагала. Я і кахаў яе і люта ненавідзеў.

У гэты час пажарнікі наладзілі начныя вучэбныя манэўры. Мне хацелася расьсеяць свае думкі і паглядзець на гэта збоку. І вось ноччу, калі людзі паўспаліся, пажарнікі забілі сыгнал. Як маланка, усе яны падняліся на ногі. Адным махам запрэглі коней у таратайкі, напоўнілі бочкі вадою, прыладзілі куды трэба драбіны, забралі кішкі, насосы і з грукатам накіраваліся па вуліцах. Але куды ехаць і што рабіць? На гэтае пытаньне ня было адказу ў пляне.

І вось тут мяне нейкая шалёная муха ўкусіла. Я прапанаваў паказальнае тушэньне пажару правесьці на мундоме № 5.

— А там ніхто ня жыве? — запыталі.

— Здаецца, адзін чалавек жыве, але ў самым заднім кутку, дык ён і не пачуе нічога. Ды і дах там зялезны якраз.

Такім чынам уся кавалькада з форсам пад'ехала да гэтага дому. Праз хвіліну зялезны дах мундому абліваўся вадою, прыладжваліся драбіны, і па іх, як чэрці, лезьлі пажарнікі. Тлум быў грандыёзны. Я стаяў, заклаўшы рукі, і з маральнай уцехай глядзеў на гэта пекнае зьявішча.

Раптам вакошка ў доме адчынілася, на хвіліну высунулася галава Ліна, зноў схавалася, а ў пакоі пачуўся жаночы голас і, як здалося мне, голас Крэйны. Як забілася сэрца маё! Я ня мог супакойна разважаць, схапіў кішку і пачаў абліваць ня толькі дах, але й вокны, і сьцены. Я нічога ня чуў, нічога ня бачыў.

Я прышоў у сябе толькі тады, калі ўбачыў у начной сарочцы азьвярэлы твар Ліна. Ён з кулакамі накіраваўся ў мой бок. Тады я ня доўга думаючы, з галавы да ног абдаў яго вадою і гэту апэрацыю спыніў толькі тады, калі Лін рэтыраваўся. На зьмену яму з чапялой у руцэ вылецела нейкая мясёная жанчына і прымусіла ўсіх нас у баявым парадку пакінуць пазыцыі. Як пасьля даведаўся, гэта была жонка Ліна, якая перад гэтым нечакана прыехала дамоў і спыніла такім чынам залёты свайго бугайчыка.

Цяпер супроць мяне кампанія ўзьнялася. Кажуць — я падарваў свой аўтарытэт. Тав. Сом шукае прычыны, каб мяне прыстойна сьпіхнуць. Лін напісаў (думаю, што ён) карэспандэнцыю ў газэту, дзе падрабязна зьмясьціў маю біяграфію і маю чыннасьць за апошнія 3 месяцы. Факты ўсе ўзяты з жыцьця, але як яны пададзены, як асьветлены, як ілюстраваны і камэнтараваны? Усё пададзена пад злачынным сосам, каб зьнішчыць мяне. Я таксама не маўчу. Таксама пішу ўва ўсе газэты і даводжу- Лін ёсьць растратчык, распусьнік і белагвардзеец, а Крэйна ёсьць Офэлія, якую трэба накіраваць у Салавецкі манастыр.

Але ад усяе гэтай калатні ў мяне лядашна на сэрцы. Думаю спыніць сваю культпрацу і ўзяцца за зямлю. Гэта мяне супакойвае, і я ня вельмі турбуюся:

— Ат! Пройдзе ўсё, а я застануся.

**Менск, 9. XII. 1928.**

**(Канец першага скрутка)**

# Беларусы ў Сьвеце

## Ангельшчына

### 7-ы ГАДАВЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ ЗБВБ

Зь вялікім спазьненьнем пасылаем у прэсу гэтую зацемку аб 7-ым Агульным Гадавым Зьезьдзе Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, але ўважаем, што лепш ёсьць зрабіць позна, чымся ніколі.

7-ы Агульны Зьезд Сяброў ЗБВБ, а чацьвёрты пасьля рэгістрацыі, адбыўся 25 і 26 красавіка ў собскім Беларускім Доме ў Лёндане. Зьезд быў заплянаваны на працяг двух дзён, бо павестка Зьезду абыймала аж 13 пунктаў: адкрыцьцё, выбары мандатнай камісіі, выбары прэзыдыюму Зьезду, справаздачы Галоўнай Управы, Наглядная Рады і Аўдытара, дыскусія над справаздачамі, справаздачы зь дзейнасьці аддзелаў ЗБВБ, дыскусія над справаздачамі аддзелаў, справа прызнаньня абсалютарыюм уступаючай управе, плян працы й бюджэт на наступны год, выбары Галоўнай Управы й Наглядная Рады, розныя справы, закрыцьцё Агульнага Зьезду.

Усе зь пералічаных пунктаў былі прынятыя на пачатку Зьезду і блізу ўсім ім было прысьвечана шмат часу і ўвагі ўдзельнікаў Зьезду, якіх налічвалася больш 30 чалавек (да кворуму Зьезду хапае праўная прысутнасьць 25 сяброў).

Ад імя Галоўнай Управы здаў справаздачу яе старшыня сп. А. Надсон. Усе зьвярнулі ўвагу на стараннасьць у прыгатаваньні самой справаздачы й яе спакойны аб'ектыўны тон. Сп. Надсон выявіў усе недахопы ў дзейнасьці як самой Галоўнай Управы, гэтак і цэлай арганізацыі побач і з пазытыўнымі фактамі.

Ад апошняга Агульнага Зьезду да гэтага Зьезду Галоўная Ўправа найбольш прысьвяціла часу рамонту Беларускага Дому ў Лёндане. Трэба было знайсьці грошы (больш 1.000 фунтаў), фірму, якая рамонт правяла-б, і ўсё гэта дагледзіць у той час, калі ўсе сябры Галоўнай Управы былі занятыя зарабляньнем куска штодзеннага хлеба, а некаторыя зь іх таксама й студыямі. Рамонт трываў доўга, навет за доўга, але сяньня Беларускі Дом у Лёндане адрэмантаваны, адноўлены, чысты й рэпрэзэнтацыйны.

Таксама шмат часу сябры Галоўнай Управы прысьвяцілі на дзяжурствы ў канцылярыі ЗБВБ. Для прыкладу падамо, што ў травені 1952 году было прысьвечана на ўсё гэта разам 97 гадзін, у чэрвені 108 гадзін і г. п. Ня трэба забывацца, што гэта гадзіны, за якія ніхто ня меў ніякае карысьці, апрача самой арганізацыі. Галоўная Ўправа мела на працягу году 15 паседжаньняў і залагодзіла лістоўна каля 400 справаў.

Із справаздачы паасобных аддзелаў ЗБВБ, якіх ёсьць пяць: у Лёндане, Бірмінгаме, Брадфордзе, Кэмбрыджы й Манчэстэры, — выявілася, што кажны зь іх у меру сваіх магчымасьцяў вёў даволі шырокую дзейнасьць. На долю ўправаў і сяброў блізу кажнага зь іх выпала прыймаць удзел у міжнацыянальных сходках, арганізаваць самапомач і культурныя імпрэзы. У касу Галоўнай Управы ўплыло з аддзелаў 100 фунтаў.

Грашовыя абароты ў параўнаньні зь лікам сяброў ёсьць бязумоўна вялікія. Пададзём тут толькі прыходы й расходы, якія датычаць Беларускага Дому ў Лёндане й Беларускага Дому ў Брадфорд. Беларускі Дом у Лёндане меў прыходу на агульную суму 530 фунтаў, 2 шылінгі й 4 пэнсы, а расходу — 503 фунты, 6 шылінгаў і 2 пэнсы; Беларускі Дом у Брадфордзе: прыходу — 476 фунтаў, 17 шылінгаў і 1 пэнс, расходу — 470 фунтаў, 4 шылінгі й 8 пэнсаў. Абодвы дамы маюць яшчэ гіпатэчныя задоўжанасьці, але калі ўсё гэтак пойдзе, як дагэтуль, даўгі будуць сплаціцца й арганізацыя будзе мець шмат чыстага даходу.

Пасьля перавыбараў у Галоўную Ўправу ўвайшлі: сп. Павал Асіповіч — старшыня, сп. Павал Навара — сакратар, сп. Алесь Быкоўскі — скарбнік, сп-ры Янка Мазура, Францішак Бартуль і Пятрусь Дварэцкі — сябры Ўправы. У Наглядную Рау былі выбраныя: а. Ч. Сіповіч, а. А. Крыт і сп. М. Дзямідзік. Зьездам кіраваў ягоны старшыня сп. Ул. Курыла, сакратаравалі сп. А. Лашчук і сп. А. Ражанец.

Успомнім аб адным, здавалася-б, мала важным, але вельмі прыкрым факце. Калі разглядалася справа высьвячэньня Беларускага Дому ў Лёндане, якая дзеля розных прычынаў адкладвалася, дык удзельнікі Зьезду не знайшлі іншага выхаду, як «справы не чапаць», г. зн. Беларускага Дому ня высьвячаць. Прыйшло да галасаваньня. Той бок, на які паў голас старшыні Зьезду, перамог, значыцца Беларускі Дом ня будзе высьвечаны. Тады, калі ў нас на бацькаўшчыне ўсякімі способамі перасьледуецца кажная праява рэлігійнага жыцьця, мы тут на выгнаньні, у вольнай краіне калі прыйдзе да вонкавага заманіфэставаньня нашых рэлігійных пачуцьцяў, як страўсі хаваем галовы ў пясок. Сумна, але праўдзіва.

**Лёндан, 8. 6. 1953.**

**а. Ч. Сіповіч**

## Задзіночаныя Штаты

### 3-яя ЗАМЕЖНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ АБНД

**АД РЭДАКЦЫІ: На просьбу старшыні ЦК Аб'еднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў зьмяшчаем прэсавы камунікат АБНД наступнага зьместу:**

30 і 31 травеня 1953 году ў горадзе Нью Ёрку адбылася 3-яя Замежная Канфэрэнцыя Беларускае Нацыянал-Дэмакратычнае Партыі, якая Канфэрэнцыяй перайменавалася ў Аб'еднаньне Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў. Канфэрэнцыю папярэдзілі краёвыя зьезды АБНД ў ЗША, Канадзе, Францыі й Бэльгіі.

На Канфэрэнцыі прысутнічалі 16 дэлегатаў ад краёвых арганізацыяў АБНД ў ЗША, Канадзе, Францыі, Бэльгіі й Аўстраліі. Кажная група АБНД мела на ёй свайго дэлегата ці ўмандатаванага заступніка.

Па адчыненьні Канфэрэнцыі й выбарах прэзыдыюму быў прыняты парадак дня канфэрэнцыі, у якім, між іншым, былі наступныя пытаньні: справаздача ЦК АБНД, сучасная міжнародная сытуацыя й беларуская праблема ў ёй, пытаньні нутранага стану беларускае эміграцыі й пагляд АБНД на гэты стан, пазыцыя АБНД да акцыі Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму й КЦАБ-у, бліжэйшыя заданьні АБНД, выбары новага ЦК АБНД і інш.

Па ўсіх пытаньнях парадку дня Канфэрэнцыя прыняла адпаведныя пастановы. Яна ўзноў задэкляравала сваё вызнаньне Рады БНР і БНЦ. Да дасюлешняй акцыі Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму й створанага ім КЦАБ-у канфэрэнцыя заняла нэгатыўнае становішча, асудзіўшы БАФ за ягоную дзейнасьць, ня згодную з вымогамі беларускай вызвольнай палітыкі. Выбраны новы склад ЦК АБНД на чале із дасюлешнім старшынёю А. Кахаоўскім.

### АД РЭДАКЦЫІ Й АДМІНІСТРАЦЫІ

**Рэдакцыя й Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» ветліва просіць усіх падпішчыкаў і сваіх Прадстаўнікоў:**

**1. Ува ўсіх фінансавых пытаньнях, справах падпіскі, выпісваньня выдадзеных «Бацькаўшчынай» кнігаў і г. п., дзеля спраўнага й тэрміновага палагоджаньня справы, зьвяртацца выключна да нашага Фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі сп. Янкі Жучкі (адрас на адвароце).**

**2. Пры высыланьні грошаў на нашага Фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі або непасрэдна на Адміністрацыю, дакладна абазначаць, на што гэтыя грошы прызначаныя: на падпіску газэты, на «Фонд беларускай кніжкі», на выпіску беларускіх кніжак, на Фонд Хворых і г. п.**

**Адначасна паведамляем:**

**1. За аплачаную падпіску згары ня менш за 6 месяцаў вызначаецца цана за газэту ў 10 амэр. цэнтаў разам зь перасылкай за 1 эгзэмпляр.**

**2. Высылка газэты індывідуальным падпішчыкам, г. зн. непасрэдна, а ня цераз Прадстаўніцтвы, выключна пасьля аплаты падпіскі згары.**

# Ліпень-месяцам беларускай кніжкі

**АД РЭДАКЦЫІ: Гэты артыкул упяршыню быў зьмешчаны ў 21-22 нумары «Бацькаўшчыны». Цяпер зьмяшчаем яго паўторна з гледзішча на ягоную актуальнасьць.**

Наймагутнейшай зброяй у выпрацоўцы адпорнасьці на асыміляцыйны працэс нашае эміграцыі, дзеля захаваньня ейнае нацыянальнае моцы, як і вялікім духовым лучнікам із страчанай часова Бацькаўшчынай ёсьць роднае друкаванае слова, у канкрэтным сэньсе — беларуская кніжка. Гэтая роля й значэньне беларускага друку ў некалькі разоў яшчэ большыя для нашае моладзі, асабліва тэй наймалодшай, што ўжо ня помніць Бацькаўшчыны. Беларуская прэса й кніжка для нашага наймалодшага пакаленьня зьяўляецца адзіным жаралам, зь якога яна можа чэрпаць веду аб Беларусі, адзіным сьветам, у якім яна ў сваім уяўленьні й фантазыі можа жыць на шырокіх прасторах роднае краіны, аддыхаць запахам яе сенажацяў і смалістых сасонак, пазнаваць жыцьцё, быт і звычаі беларускага народу, разумець і захопліваца ягонымі нацыянальна-вызвольнымі ідэямі.

Ніхто не запярэчыць прыкрага факту, што спасярод розных галінаў нацыянальнае дзейнасьці нашае эміграцыі справа выдаваньня й перавыдаваньня найлепшых беларускіх кніжак была найбольш занядбанай. Прычынай гэтага была ня толькі нашая матарыяльная галіта, але ў ня меншай меры і нашае недацэньваньне вялізарнай нацыянальнай ролі й значэньня роднага друкаванага слова. Але ніколі ня бывае такой памылкі, якой пры шчырым хаценьні й добрай волі нельга было-б направіць!

Разумеючы і ўлічваючы гэта, Рэдакцыя «Бацькаўшчыны», ня гледзячы на тое, што ўсьцяж мусіла й мусіць змагацца з матарыяльнымі нястачамі, ад самага пачатку паставіла сабе за заданьне сыстэматычна перадрукоўваць на сваіх балонах найлепшыя й найпрыступнейшыя шырокім масам творы беларускае мастацкае літаратуры й потым выдаваць іх асобнымі кніжкамі.

На пачатку здавалася, што такая сьціплая тыднёвая газэта, могучы адпускаць на такія перадрукі адно толькі па два газэтныя падвалы ў тыдзень, ня зможа зрабіць нечага паважнейшага ў гэтай галіне. Гэтак здавалася на пачатку. Тымчасам, аднак, «Бацькаўшчына», можа ўжо сяньня пахваліцца не малымі дасягненьнямі ў гэтай галіне сваей працы. Не прамінула яшчэ паўтара году ад таго часу, калі газэта распачала перадрукоўваньне найвялікшага й аднаго з найвыдатнейшых твораў нашае літаратуры нашаніўскае пары — паэмы «Новае Зямлі» Якуба Коласа (перадрукоўваньне распачалося ў нумары 78-79 за 25. 12. 1951 г.), а ў нумары 18 (149) за 3. 5. 1953 год, г. зн. за ня цэлых паўтара году, закончыла перадрукоўваньне й выдала асобнымі кніжкамі тры наступныя шэдэўры беларускае літаратуры: 1. «Новая Зямля» Якуба Коласа, 278 балонаў (разам з уступам), 2. «Раськіданае Гняздо» Янкі Купалы, 74 балоны і «Тутэйшыя» Янкі Купалы, 82 балоны; **разам 434 балоны.** Пры гэтым, у тым-жа часе перадрукоўваньне мастацкай літаратуры ў шасьцёх падрад нумарох (ад № 34 (113) да 39 (118), г. зн. на працягу паўтара месяцаў, было перапыненае, калі друкавалася падвалам навуковая праца п. н. «Некаторыя групы словаў беларускае мовы». Цяпер-жа «Бацькаўшчына» перадрукоўвае выдатны празаічны твор нашае літаратуры пэрыяду «Ўзвышэнства» — «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, які пазьней будзе таксама выдадзены асобнай кніжкай.

Пераканаўшыся такім чынам на собскім прыкладзе, што пры хаценьні можна зрабіць многае навет пры вельмі сьціплых і абмежаваных магчымасьцях, «Бацькаўшчына» цяпер паставіла перад сабой куды шырэйшыя й больш амбітныя мэты: яна пастанавіла ў далейшым выдаваць лепшыя творы беларускае літаратуры ня толькі шляхам спачатнага перадрукоўваньня іх у газэце, што зьмяншае кошты выданьня, але й выдаваць іх таксама непасрэдна, г. зн. друкаваць асобнымі кніжкамі, ня перадрукоўваючы перад гэтым у газэце. Мы плянуем, што гэткім чынам Выдавецтва «Бацькаўшчыны» змагло-б выпускаць у сярэднім адну кніжку ў месяц.

Як сама Рэдакцыя, гэтак і некаторыя беларускія інстытуцыі, таксама й прыватныя асобы прыгатавалі ўжо да друку й запрапанавалі нашаму Выдавецтву выданьне наступных твораў нашае мастацкае літаратуры: 1. «Выбраныя Творы» Янкі Купалы, 2. «Выбраныя Творы» Максіма Багдановіча, 3. «Зборнік мастацкае прозы» Власта (В. Ластоўскага), 4. «Зборнік мастацкае прозы» Максіма Гарэцкага, 5. повесьць «Дзьве Душы» Максіма Гарэцкага, 6. «Зборнік Узвышэнскае Прозы», 7. «Зборнік Узвышэнскае Паэзыі», 8. «Гальгофа» — зборнік апавяданьняў сучаснага эміграцыйнага пісьменьніка Мартына Люціча, 9. «Асыміляцыя ці адраджэньне?» др. Тамаша Грыба й інш.

Як бачым, заданьне, здавалася-б, панад нашыя сьціплыя сілы й магчымасьці. Аднак яно зусім рэальнае, калі ўзяць пад увагу дасюлешнія вынікі выдавецкае дзейнасьці «Бацькаўшчыны». Зрэалізаваць, аднак, гэты плян магчыма толькі пры выдатнай, сыстэматычнай і арганізаванай дапамозе ўсяго нашага грамадзянства на эміграцыі. Гэтая помач практычна магла-б быць дваякая: **1. купляць самым і пашыраць сярод іншых дагэтуль ужо выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі, 2. даваць большыя й меншыя складкі на далейшае выдавецтва. Пры гэтым, за магчымыя бязінтэрэсоўныя ахвяры на выдавецтва вельмі дзякуем, але іх ня вымагаем.** Прапанаваныя намі складкі будуць ня бязінтэрэсоўнымі ахвярамі, але выключна **падпіскай згары (наперад)** з тым, што кажны ў разьмерах свае складкі будзе мець права атрымаць паводля свайго выбару выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі.

Гэтая акцыя павінна быць бесьперапынная. Але каб яе арганізавана правадзіць і даць ей сыстэматычны пачатак, **мы абвяшчаем месяц ліпень месяцам беларускае кніжкі.**

У гэтым месяцы прадстаўнікі Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўва ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі будуць зьбіраць на афіцыяльныя падпісныя лісты (на блянкетах і зь пячаткай «Бацькаўшчыны» ды за подпісам прадстаўніка Рэдакцыі) складкі на выдавецтва беларускіх кніжак пры «Бацькаўшчыне». Незалежна ад гэтага, паасобныя грамадзяне могуць непасрэдна прысылаць свае складкі ці то на адрас адміністрацыі «Бацькаўшчыны», ці то на нашага фінансавага прадстаўніка ў Лювэне (Бэльгія). Пры кажнай такой перасылцы грошаў просім выразна зазначаць — **«На выдавецкі фонд беларускае кніжкі»**, бо грошы, сабраныя на выдавецтва беларускіх кніжак, будуць намі ўносіцца на асобны лік (конто) і ня будуць зьмешваныя з выдавецкім фондам самой газэты. Усіх тых нашых суродзічаў, што знаходзяцца ў лепшых матарыяльных умовах, просім задэкляроўваць большыя складкі, каб нашую выдавецкую справу ўзапраўды паставіць на належнай узроўні.

Кажны можа быць пэўным, што задэкляраваная ім складка пойдзе на прызначаную мэту, і кажны зможа атрымаць адпаведную колькасьць выбраных ім кніжак у разьмеры ягонае складкі. **Гарантыяй гэтага — дасюлешнія вынікі працы Выдавецтва «Бацькаўшчыны»!**

**Не павінна быць аніводнага Беларуса, які ня быў-бы сябрам Выдавецтва «Бацькаўшчыны» й не задэкляраваў адпаведнай ягонай магчымасьці складкі!** Справа партыйнай прыналежнасьці ці палітычнага кірунку ня можа тут быць найменшай перашкодай. Складкі зьбіраюцца не на газэту, якая, рэч ясная, мае свой палітычны кірунак, які ня ўсімі можа быць апрабоўваны, але **выключна на выдаваньне асобнымі кніжкамі твораў беларускае мастацкае літаратуры,** аднолькава патрэбнай і цэннай для кажнага Беларуса незалежна ад ягонай партыйнай прыналежнасьці ці палітычных перакананьняў.

Распачынаючы, а фактычна расшыраючы, нашую выдавецкую акцыю, мы хочам верыць, што нашыя інтэнцыі, як і патрэбы шырокіх масаў нашае эміграцыі мець родную кніжку, усе бяз выключэньня нашыя суродзічы належна зразумеюць і прыйдуць нам з падтрыманьнем. Нашым лёзунгам у гэтым важным і адказным пачынаньні ёсьць: **Кажнаму Беларусу родная кніжка!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ

**Паважаны Спадару Рэдактару!**

**Прашу не адмовіць надрукуваць у «Бацькаўшчыне» наступны мой ліст:**

**Выпадкова трапіў да мяне № 1 воргану Беларусаў-фэдэралістых «Наш Шлях», дзе ў сьпіску прадстаўнікоў камітэтаў зь вялікім зьдзіўленьнем пабачыў сваё прозьвішча й мой ранейшы адрас.**

**Мушу сьцьвердзіць, што ніколі ніякай гутаркі зь беларускімі фэдэралістымі адносна высоўваньня маей кандыдатуры, як прадстаўніка іхнага камітэту, я ня меў і ніякай згоды на тое не даваў. Таму лічу ўчынак рэдакцыі «Нашага Шляху« цалкам самавольным і не адказваючым запраўднасьці.**

**Лювэн — Бэльгія, 10. 6. 1953.**

**З пашанай**

**Алесь Карповіч**

# Вызвольная канцэпцыя Джэмса Бэрнгэма

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

Апошнім пытаньнем, якое варта яшчэ зрэфэраваць з кнігі Бэрнгэма, астаецца ягоны пагляд на імпэрыялістычныя канцэпцыі расейскіх эміграцыйных палітыкаў. І тут ягоныя заўвагі не пазбаўленыя глыбокага прадуманьня й правільных вывадаў. **«Калі Расейцы,** — піша ён, — **якія жадаюць быць уважанымі за антыкамуністых, ня хочаць пашырыць свабоды на нерасейцаў, дык трэба запытаць, на якім яны апынуцца баку, калі надыйдзе дзень вялікай расправы.»** Пытаньне ёсьць адначасна й адказам на яго. Далей ён піша, што магчыма маюць рацыю тыя эмігранты, якія цьвердзяць, што бальшыня Ўкраінцаў, Грузінаў, Туркмэнаў і іншых народаў уважае сябе за малодшых братоў Расейцаў і жадае быць інтэгральнай часьцю расейскай дзяржавы, ачышчанай ад камунізму. **«Калі гэтак ёсьць, дык тым лепей: але паглядзім, ці гэтак ёсьць у запраўднасьці?»** — пытае ён. У вадказ на гэта ён цьвердзіць, што магчыма якраз маюць рацыю эмігранты нерасейскія, калі ўважаюць, што іхныя суродзічы маюць досыць Расейцаў і жадаюць даверыць сваю палітычную будучыню іншым сувязям, прыкладам, Усходня-Эўрапэйскай Фэдэрацыі, Задзіночанай Эўропе, Фэдэрацыі Музулманскай і можа яшчэ якім-небудзь камбінацыям іншым. Становішча да гэтага Амэрыканцаў, паводля перакананьня Бэрнгэма, павінна быць наступнае: **«Палітыка вызваленьня пакідае ім адзіна свабоду выбару. Нават выбар тэарэтычна нямудры, калі толькі будзе згодны з настроямі народаў, якіх выражае волю, лепей можа спрычыніцца да захаваньня міру й раўнавагі ў гэтых бурлівых раёнах, чымся дэцызія, накінутая пераможнікам».**

*

Кніжка «Паўстрымоўваньне ці Вызваленьне» Джэмса Бэрнгэма зьяўляецца дагэтуль першай грунтоўнай палітычнай працай на Захадзе, у якой выдатны й шырока ведамы аўтар і палітык бярэ ў вабарону паняволеныя бальшавізмам народы ня толькі ад камунізму, але й ад усякага іншага расейскага імпэрыялізму. Адначасна ў кнізе гэтай падаюцца глыбокія й найбольш збаўленныя для вольнага сьвету практычныя рады, як атрымаць перамогу ў палітычным і ваенным змаганьні з камунізмам. Здавалася-б тады, што гэтая вартасная праца павінна быць у Амэрыцы належна ацэненая, а пагляды аўтара знайсьці шчыры водгалас у публічнай апініі Захаду.

Але й тут бязьлітасная іронія лёсу! Гэтая кніжка ў самай Амэрыцы спаткалася з кнігарскім байкотам, зьнікла зь вітрынаў кнігарняў, а прэса або яе зусім прамаўчала, або прысьвяціла ёй зусім дробныя, пераважна няпрыхільныя, зацемкі. Супраць усяго гэтага запратэставала некалькі амэрыканскіх пісьменьнікаў і журналістых на балонах журналу «Нью Лідэр». Яны падчыркнулі, што якраз камуністыя маюць асаблівую прычыну байкатаваць гэтую кніжку, бо ў ей знаходзяцца практычныя парады, як можна выйграць халодную вайну з камунізмам.

**Алесь Крыга**

# Канчальны развал КЦАБ-у

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

лі, што гэтую формулу знайсьці пры аб'ектыўнасьці й добрай волі з расейскага боку можна й запрапанавалі выбраць падкамісію з 3 чалавек (па аднаму ад кажнага боку) дзеля апрацаваньня формулы паразуменьня Прадстаўнікі 2-га КЦАБ-у ўвайсьці ў падкамісію адмовіліся, таму падкамісія была створана з двух чалавек. Тады група Керэнскага заявіла, што яны бачаць толькі адну магчымасьць выхаду з палажэньня, гэта — стварыць «тактычна-мэтавы саюз», які каардынаваў-бы толькі змаганьне з бальшавізмам, а не парушаў-бы ніякіх іншых справаў, у тым ліку й нацыянальных. Прадстаўнікі Парыскага паразуменьня запрапанавалі, каб Расейцы спачатку прадставілі праект такога «саюзу», што і ўзяўся выканаць сп. Міхайлоўскі.

У чацьвер 11 чэрвеня на паседжаньні камісіі сп. Міхайлоўскі перадаў мэмарандум, у якім сьцьвярджалася немагчымасьць прыйсьці да паразуменьня паміж прадстаўнікамі Парыскага паразуменьня й 2-ім КЦАБ-ам, бо пазыцыі абодвых бакоў узаемна сябе выключаюць. Таму Расейцы на гэтым «прыватным паседжаньні», як яны яго тады назвалі, прапануюць прыйсьці да згоды: пры існаваньні КЦАБ-у зь яго цяперашнім статутам пэрыядычна склікаць нарады прафэсараў, журналістых і іншых інтэлектуалістых як спасярод Расейцаў, гэтак і нерасейскіх народаў для сумеснага абгаварэньня й вымены думак аб мерах змаганьня з бальшавізмам. Наагул прапанова гэтая зводзілася да вельмі агульных і туманных прапазыцыяў. Блёк Парыскага паразуменьня папрасіў поўгадзіны перапынку для абмеркаваньня мэмарандуму, але Расейцы перапынак зацягнулі больш як на гадзіну. Калі аднавілася паседжаньне, прадстаўнікі 2-га КЦАБ-у заявілі, што яны свой мэмарандум-прапанову адклікаюць і просяць зложыць сваю прапанову праціўнаму боку. Сп. Нікалаеўскі сфармуляваў ад сябе прапанову, у якой, патрабуючы талеранцыі для ўсіх паглядаў і перакананьняў з боку партнэраў, гэтым самым даваў волю весьці разбуральную й агентурную дзейнасьць рознае масьці «фэдэралістым».

Над прапановай сп. Міхайлоўскага разгарнулася ажыўленая дыскусія. Сп. Нікалаеўскі накіраваў увесь агонь супраць групы Керэнскага. Адклікаўся да расейскага патрыятызму й назваў групу Керэнскага сучаснымі «расчленителями» Расеі, бо яны ставяць мэту стварыць два антыбальшавіцкія цэнтры і гэтым самым паказваюць усяму сьвету, што прадстаўнікі нерасейскіх народаў ня хочаць мець нічога супольнага з Расейцамі. У часе перапынку прадстаўнікі Парыскага пагадненьня й сп. Нікалаеўскі апрацавалі сумесную пляцформу. Сэнс яе заключаўся ў тым, што незалежнасьць нацыі вызначаецца формулай «згодна волі народу», не ўспамінаючы, калі гэтая воля народу была выказана: у 1918 годзе ці яшчэ будзе выказваная ў будучыні. Прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту сп. Пэч ужо лічыў, што гэтая прапанова будзе прынятая.

Тымчасам на паседжаньні камісіі 12 чэрвеня група Керэнскага катэгарычна адкінула й гэтую прапанову. Пасьля гэтага паседжаньне было адложанае да панядзелку 16 чэрвеня. **(-іч)**